«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (199), сакавік 2023 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 3 (199) (сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



Змест



# «Адвечным шляхам»

## Нацыянальная культура і нацыянальная дактрына

Аляксей РАГУЛЯ

Адраджэнне еўрапейскіх этнасаў у XVIII стагоддзі ў якасці суб'ектаў культуры суправаджалася з'яўленнем вялікіх філасофскіх нарацыяў — адкрыццём крэатыўнага патэнцыялу чалавека не толькі ў галіне навуковай творчасці, але і ў сферы сацыяльнага канструявання свету паводле нормы «свабода, роўнасць і братэрства». Рэальным вынікам гэтай арыентацыі стала адкрытае грамадства: нацыянальна-дэмакратычныя дзяржавы — рэспублікі. Нацыянальна-дэмакратычны тып культуры стаў сацыяльнай рэальнасцю, як і тып індустрыйна-гандлёвы...

Аднак не менш істотную ролю ў сучасным свеце адыгрываюць і супрацьлеглыя, нігілісцкія тэндэнцыі. У Беларусі нігілізм укараніўся ў сферы моўнай дзейнасці. З гэтай прычыны нацыянальны вербальна-мастацкі вопыт застаецца пераважна па-за сферай філасофскіх інтарэсаў нацыянальнай аналітыкі. І гэта — у сітуацыі, калі беларускамоўны здабытак у галіне вербальна-мастацкай фенаменалогіі атрымаў шырокае прызнанне ў свеце.

Абясцэньванне духоўных каштоўнасцяў пад націскам прагматысцкага пазітывізму заканамерна прыводзіць і да абясцэньвання метафізікі. На ўзроўні практыкі гэта праявілася ў абясцэненых адносінах да Ідэі наогул.

У такой сітуацыі трансфармацыя нацыянальнай ідэі ў нацыянальную дактрыну застаецца нявырашанай праблемай. Гэта ставіць суверэнітэт краіны пад пагрозу яго абясцэньвання. Нацыянальная дактрына адлюстроўвае ўзровень разумення і сутнасць калектыўных суб'ектаў культуры. Гэткімі з'яўляюцца нацыі — этнасы, аб'яднаныя ў супольнасць адзінствам чалавечага інтарэсу ў працэсе тварэння сваёй культуры.



У арсенале сродкаў «культурнага» агрэсара важнае значэнне мае адсутнасць разумення такой катэгорыі, як нацыянальныя каштоўнасці, — незалежна ад таго, свае яны ці чужыя. У публіцыстычным артыкуле «Немцы знішчаюць беларускую культуру» (1942 год) Кузьма Чорны ў самым пачатку зазначыў: «Увесь свет даўно і добра ведае, што фашысты — гэта гуны, самыя пачварныя дзікуны, якіх не ведала самая старажытная першабытная гісторыя... Фашысты пачалі крывавыя расправы над усімі тымі, хто не схіліў свае галовы перад рэжымам тэрору, здзекаў і катаванняў»...

У філасофіі цікавым быў прарыў да спасціжэння сапраўднай, чалавечай роднасці ў не зашораных славянафільствам еўразійцаў. Асаблівай увагі заслугоўвае культурфіласофскі вопыт Мікалая Трубяцкога (1890—1938). Гэты мысліцель на агульным фоне рускага інтэлектуалізму вылучаецца незалежнасцю ад стэрэатыпаў самасці і месіянства. Зыходзячы з імператываў «пазнай самога сябе» і «будзь самім сабой», М. Трубяцкой адмаўляе абстрагаваную ад канкрэтнага нацыянальнага зместу «агульначалавечую цывілізацыю», што мае немалаважнае значэнне сёння ва ўмовах нарастаючага прэсінгу з боку адэптаў абсалютнай глабалізацыі. «Наадварот, — гаворыцца ў яголным артыкуле «Пра сапраўдны і ілжывы нацыяналізм», — імкненне кожнага народа стварыць сваю нацыянальную культуру знаходзіць сабе поўнае маральнае апраўданне. Усякі культурны касмапалітызм ці інтэрнацыяналізм заслугоўвае рашучага асуджэння». М. Трубяцкой адзначае, што ў Расіі сапраўдны нацыяналізм як грамадскі рух «яшчэ не існаваў», што «ў будучым яго трэба стварыць». Задача застаецца актуальнай і сёння, калі Расіі навязваецца паварот да самадзяржаўя, афіцыйнага праваслаўя і афіцыйнай народнасці — аналагу рэлігіі рабства. Руская інтэлігенцыя, на думку М. Трубяцкога, павінна пераадолець боязь сапраўднага нацыяналізму і вызваліцца ад чараў вялікадзяржаўніцтва.

Беларуская ж філасофія нацыянальнага Адраджэння складвалася падобна да нямецкай і італьянскай — ва ўмовах існавання нацыі на мяжы знікнення. Невыпадкова Мікалай Дабралюбаў, адказваючы на інсінуацыі паклёпнікаў, яшчэ ў 1860 годзе супаставіў становішча беларусаў са становішчам італьянцаў: *«Гэта гэтак жа, як італьянцаў забілі, расслабілі, пазбавілі любові да радзімы і да свабоды!.. А пагляздіце цяпер на іх... Ва ўсялякім выпадку пытанне пра характар беларусаў павінна быць хутка растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў. Пагляздім, што яшчэ скажуць самі беларусы».*




Чарговае беларускае выказванне прагучала на прасцягах еўрапейскага свету ў 1863 годзе. Спачатку Кастусь Каліноўскі, а потым Францішак Багушэвіч вызначылі часавыя і прасторавыя параметры беларускай ідэі, акрэсліўшы яе каштоўнасны сэнс. Яны, героі антыцарскага паўстання 1863 года, з'яўляюцца крэатарамі беларускай ідэі.

Абапіраючыся на запавет пачынальнікаў, новыя пакаленні адраджэнскага руху сфарміравалі нацыянальную дактрыну — беларускае Навукавучэнне. Алюзія на Іагана Фіхтэ тут не будзе лішняй: абсалютнае, самарэалізаванае Я не існуе па той бок нацыянальнай незалежнасці.

У аснову беларускай адраджэнскай аксіялогіі навейшага часу былі пакладзены эстэтычныя крытэрыі. Такі погляд можна ўспрымаць як эпатаж устойлівай даследчыцкай парадыгмы, якая пачынае размову з сацыяльнай праблематыкі: «няма хлеба, няма солі, чужому рабі». Аднак жа сацыяльная праблематыка і тым больш «пытанні толькі дабрабыту, дзе ўсё прыводзіцца к карыту» (Якуб Колас), пры ўсёй іх значнасці, не з'яўляюцца самамэтай і падпарадкаваны вышэйшаму крытэрыю — людскасці ў яе эстэтычным вымярэнні.

Абагульняючы сусветны і нацыянальны вопыт філасофскага і эстэтычнага станаўлення чалавецтва, Уладзімір Самойла («Гэтым пераможаш!...», 1924 г.) яшчэ сто гадоў таму вызначыў мэтавую ўстаноўку ў адраджэнскім руху чалавецтва: «перетварыць усенькае "сыр'ё" сусветнага зла ў патрэбныя чалавеку цэннасці і дабро». Прапанаваны ім шлях складаецца з двух этапаў. Першы — гэта духоўнае вызваленне ад розных формаў рабства і ачмурэння і дасканаленне «духу вольнага». У актуальнай сітуацыі галоўным злом, на думку У. Самойлы, быў «алкаголь» бальшавіцкага папулізму. Беларуская культура, сцвярджаючы эстэтыку раздольнасці, адначасова раскрывала дзейсны патэнцыял гаспадарскай парадыгмы і адмаўляла метады крывавай рэвалюцыі...

Актуальная задача беларускай культуралогіі — фарміраванне нацыянальнай школы тэарэтычнай культурфіласофіі. Існуючыя ключавыя канцэпты: лад, спадчына, скарб, шлях, людскасць, родны кут, радасць існавання, крытычны аптымізм, адраджанізм, абвостраная цвёрдасць, свой чалавек і многія іншыя, насычаныя рэальным духоўным і сацыяльным зместам, — ужо сёння могуць быць асновай па-філасофску афармленай нацыянальнай дактрыны.

Акрамя таго, вялікія рэсурсы аздараўлення філасофскага дыскурсу закладзены ў змесце нацыянальнага хранатопу, у якім вельмі цесна ўзаемазвязаныя каштоўнасныя сэнсы з касмалогіі, тэорыі пазнання і аксіялогіі. Пастаўленае Максімам Гарэцкім пытанне: «Адкуль усё і што яно?» зафіксавала наяўнасць духоўных рэсурсаў, дастатковых для таго, каб узняцца з калодзежнага прадонне рэдукцыі ў Адзінае і, адкрываючы «ў нязмерных глыбінях нязмерныя высі», рушыць «адвечным шляхам» «да сонца, да зор» у сацыяльнай творчасці.

# Францішак Аляхновіч: Увянчаны Мельпаменай, дыктатурай укрыжаваны

Янка СКРЫДЛЕЎСКІ

***9 сакавіка — 140 гадоў з дня нараджэння Францішка Аляхновіча, пачынальніка новага нацыянальнага тэатра, пісьменніка, драматурга, рэдактара-выдаўца, грамадскага дзеяча.***

***Яго кніга пра перажытае ў сталінскім лагеры «У капцюрох ГПУ» стала першым у свеце антыгулагаўскім творам і яшчэ ў 1930-я гады была перакладзена на некалькі еўрапейскіх моў.***

***Яго імя замоўчвалася савецкім літаратуразнаўствам і заставалася забароненым да 1990-х.***

***Яго творчая спадчына і да сёння цалкам не выдадзена, а ў ягоным жыццяпісе, на жаль, застаецца шмат загадак і недакладнасцяў.***


Ф. Аляхновіч у Львове, 1910-я гг.

Бацька будучага драматурга, Караль Іванавіч Аляхновіч, нашчадак шляхецкага роду з-пад Радашковічаў, быў прафесійным скрыпачом і працаваў у розных віленскіх тэатральных аркестрах. Ён і пазнаёміў сына з тэатральным светам Мельпамены. Францішак марыў стаць акцёрам, праз што закінуў вучобу. За непаспяховасць быў выключаны з 5 класа Віленскай гімназіі (у якой, дарэчы, вучыўся-сустракаўся з Феліксам Дзяржынскім, які пазней працаваў рэпетытарам у сваякоў Ф. Аляхновіча, а затым… ну самі ведаеце).

Павучыўся ў польскіх драматычных школах і вярнуўся ў Вільню з новым жаданнем: стаць журналістам. За адзін з артыкулаў царская ўлада абвінаваціла яго ў «стремлении к ниспровержению существующего строя». «Экстрэміст» на суд не з'явіўся і падаўся ў Львоў. Расійскі імператар абвесціў амністыю ў сувязі з 300-годдзем дома Раманавых. Ф. Аляхновіч у 1913-м вяртаецца ў Вільню і… на год трапляе ў турму.

А затым праз матэрыяльную нястачу мусіў працаваць маляром, пажарнікам, кантралёрам электрасетак. І пісаў п'есы. А ў свеце — вайна…

Па сведчанні Максіма Гарэцкага, «дачуўшыся аб шырокай беларускай рабоце ў Менску, Аляхновіч без нямецкага пропуска, пехатою, без грошай у кішэні пусціўся ў дарогу. Пераапрануўшыся фурманам, ён з нейкімі засцянковымі шляхцянкамі перабраўся праз лінію старога фронту (каля Маладзечна) і, абарваны, босы, з ранамі на нагах, пасля васьмідзённага падарожжа прайшоў у Менск».

Пасля Сусветнай пачалася вайна савецка-польская. Ф. Аляхновіч выдае часопіс-штомесячнік «Беларускае жыццё», большасць матэрыялаў у якім — грамадска-палітычныя, літаратурныя, антыбальшавіцкія. З сакавіка 1921 года выдае «Беларускі звон» (з якой супрацоўнічалі Браніслаў Тарашкевіч, Янка Купала, Максім Гарэцкі, Леапольд Родзевіч, Макар Краўцоў, Антон Луцкевіч, Наталля Арсеннева, Уладзімер Жылка), удзельнічае ў пастаноўках сваіх п'ес.



Сімвалічная магіла Ф. Аляхновіча на могілках Росы, Вільня

Поспехі беларусізацыі ў савецкай Беларусі спакусілі яго перабрацца ў Менск. 23 снежня 1926 года Ф. Аляхновіч атрымаў грамадзянінства БССР, а праз тыдзень (1 студзеня 1927-га) апынуўся ў ізалятары менскай турмы за «шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы» і быў асуджаны на 10 гадоў катаргі на Салавецкіх астравах. У 1933-м драматург быў абмяняны на арыштаванага ў Польшчы палітыка і філолага Браніслава Тарашкевіча.

Ф. Аляхновіч вяртаецца ў Вільню, дзе і напіша сваю знакамітую кнігу ўспамінаў пра знаходжанне ў савецкім лагеры «У капцюрох ГПУ». А вясной 1944 года будзе забіты. Яго з урачыстасцямі пахаваюць на Кальвінскіх могілках у цэнтры Вільні, а ў 1989-м сімвалічна перазахаваюць на могілках Росы, бо за савецкім часам Кальвінскія могілкі знішчылі.

Некаторы час над яго неіснуючай магілай стаяў драўляны крыж…

# Хроніка Францішка Аляхновіча

Алесь АКУЛІЧ

У нашай беларускай старажытнасці былі «Хроніка Быхаўца», «Баркулабаўская хроніка», «Магілёўская хроніка Сурты і Трубніцкага». А ў першай палове ХХ стагоддзя з'явіліся іншыя. Да прыкладу — «Хроніка Аляхновіча»…

Францішак Аляхновіч стварыў мастацкі летапіс свайго жыцця — цыкл белетрызаваных успамінаў. «Хроніка Аляхновіча» пачынаецца з 1902 года — з часоў вучобы аўтара ў гімназіі, зняволення ў польскай турме і канцэнтрацыйным лагеры ў Літве (нататкі-ўспаміны «У гімназіі», «Без загранічнага прашпарту», «У Кракаве», «Першы раз у вастрозе», «У Коўні» і іншыя). Працягам гэтых запісаў сталі надрукаваныя ў газеце «Гоман» (1918, 1 і 11 чэрвеня) «Уражанні з падарожжа (Пехатой па краю)», у якіх падавалася цікавае апісанне незвычайнай вандроўкі, удзельнікам якой таксама давялося стаць Ф. Аляхновічу — вандроўкі з Вільні ў Мінск і нелегальнага пераходу ў 1918 годзе польска-бальшавіцкага фронта.

Асноўную частку «ўспамінннай хронікі» склала кніга «У капцюрох ГПУ», якая ахоплівае прамежак часу з 1926 па 1933 гады. Асобныя раздзелы з гэтай кнігі Ф. Аляхновіч пачаў пісаць у 1934 годзе і друкаваць у польскамоўных перыядычных выданнях.

Аднак 1933 годам «тулянні па пакутах» у Ф. Аляхновіча не скончыліся: пісьменнік «улетку 1940 года раптам увечары пабачыў», як згадваў, «на вуліцах Вільні савецкія танкі». Перыпетыі сваіх бясхатніх тулянняў пасля далучэння Літвы да СССР Ф. Аляхновіч апісаў у аповесці «Страшны год», якая і падагульняе амаль саракагадовую «мемуарную хроніку» пісьменніка («Страшны год» друкаваўся на старонках часопіса «Новы Шлях»).

Аб'яднаныя ў адну «лёсавую» гісторыю вышэйзгаданыя мастацкія ўспаміны гучалі мужнымі сведчаннямі супраць гвалта з чалавека, асобы, супраць таталітарызму ва ўсялякіх ягоных праявах: і польскага шавінізму, і сталінскага бальшавізму.

«У капцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча стаў адным з першых мастацкіх твораў, у якіх апісваліся і выкрываліся сталінскія злачынствы і — шырэй — таталітарны здзек з людзей і цэлых народаў. Жудасныя, дэталёвыя малюнкі арышту, высылкі, карных ізалятараў, эпізоды-выявы здзекаў і катаванняў, партрэты ахвяраў і катаў — янычараў ХХ стагоддзя, карціны сотняў смерцяў нітуюцца ў адну страшэнную мазаіку лагернага жыцця і перанатвараюць «У капцюрох ГПУ» са звычайных шараговых успамінаў у паўнавартасны мастацкі твор, чытацкая ўвага да якога не аціхае і сёння.

Твор Ф. Аляхновіча, да ўсяго, адметны сваім гуманістычным пафасам, сваёй «незаангажаванасцю» якой-кольвек палітычнай ідэалогіяй. Лёс звычайнага чалавека ў нечалавечых абставінах першай паловы ХХ стагоддзя — вось галоўная тэма Аляхновічавага твора, твора мемуарнага, але найперш — уласнамастацкага. Ф. Аляхновіч раскрыўся ў кнізе «У капцюрох ГПУ» майстрам эстэтычнага адбору, эмацыянальнага завастрэння, псіхалагічнай нюансіроўкі і сюжэтна-кампазіцыйнага «мантажу», выявіўся таленавітым празаікам-белетрыстам, які здольны выбраць для мастацкага аналізу з перажытага самае істотнае, дэталёвае, вызначальнае і тыповае.

У вобразе «Попутчика», прататыпам якога, безумоўна, быў сам аўтар, па-мастацку трансфармаваліся лёсы герояў трагічнай беларускай гісторыі, «попутчики» рэвалюцыі ці, пазней, «буржуазныя нацдэмы» — бязвінныя ахвяры нялітасцівага лёсу.

Мемуарна-спавядальныя творы пра перажытае ў зняволенні і наогул «турэмная» і «шпіёнская» тэмы былі на той час — 30—40-я гады — надзвычай папулярнымі і, на жаль, надзённымі. Аповесць «У капцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча і яго іншыя мемуарныя запісы папярэднічалі і былі ўзорамі-прыкладамі для пазнейшых еўрапейскіх аўтараў «успамінна-мемуарнай» прозы антытаталітарнай тэматыкі. «У капцюрох ГПУ» напрыканцы 30-х гадоў была папулярнай кнігай у Заходняй Еўропе і Амерыцы, з 1935 па 1937 гады яна выйшла ў перакладах на сем моваў свету (польскай, італьянскай, украінскай, партугальскай і інш.). Аб папулярнасці кнігі сведчыў і сам аўтар: «…я сваім коштам выпусціў свае ўспаміны кніжкай у польскай мове. Зарабіў. Кніжка разышлася». Гэта пра першае выданне кнігі па-польску ў 1934 годзе — пад назвай «Prawda o Sowietach».

Кніга Ф. Аляхновіча «У капцюрох ГПУ» адной з першых у сусветнай літаратуры раскрывала гулагаўскую тэму, якая стане надзвычай папулярнай у дысідэнцкай і выгнанніцкай прозе другой паловы ХХ стагоддзя (проза А. Салжаніцына, В. Шаламава і інш.). Кніга Ф. Аляхновіча папярэднічала творам У. Юрасава, Ю. Аляшкоўскага, Ю. Дамброўскага. З «У капцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча тыпалагічна можна суаднесці напісаную ў другой палове 30-х гадоў аповесць польска-беларускага пісьменніка (нарадзіўся ў мястэчку Ляхавічы ў Беларусі, таксама зведаў доўгія гады турмы) Сяргея Пясэцкага «Bogom nocy rowni» (беларускі пераклад называецца «Начныя багі»). Гэтыя кнігі блізкія і па жанрава-стылёвых асаблівасцях (тыя ж мемуары-ўспаміны, яскравая аўтабіяграфічнасць тэкста, шчырасць і лірычнасць), і ідэйна-праблемных (паказ трагічнасці чалавечага лёсу ў варунках варожага дзяржаўнага «суседства»), і змястава-тэматычных (сцэны нелегальнага пераходу мяжы), і фармальна-кампазіцыйных адметнасцях (падзел тэкста на паасобныя невялікія сюжэтна завершаныя раздзелы).

Напрыканцы 30-х гадоў у Германіі з'явілася кніга мемуараў Карла Альбрэхта «Здрада сацыялізму», якая і тэматычна, і ідэйна станавілася нібыта літаратурнай «сястрой» кнігі Ф. Аляхновіча. (К. Альбрэхт нарадзіўся ў 1897 годзе. У 1924-м прыехаў працаваць у СССР. Уступіў у камуністычную партыю. У 1932-м быў арыштаваны «за шпіёнскую дзейнасць» на карысць Германіі. Сядзеў у Лубянскай, Бутырскай і Таганскай турмах.) З усёй скрупулёзнасцю «нямецкага падданага» К. Альбрэхт распавядае пра доўгія месяцы сваёй няволі — падрабязна, дэталёва: апісвае турэмныя парадкі, норавы, вымалёўвае людзей — розных нацыянальнасцяў і заняткаў (і арыштаваных, і іхніх катаў), робіць гэта псіхалагічна выверана. Пад словамі прадмовы да кнігі «Здрада сацыялізму», пераклад часткі якой з'явіўся ў 1941 годзе і па-беларуску, — пад назвай «У падвалах ГПУ», мог падпісацца і Аляхновіч: «Я напісаў сваю кнігу <…> галоўным чынам таму, што ў ёй ад імя мільёнаў нявінна замучаных людзей, ад імя братоў, сясцёр і дзяцей, што загінулі ў засценках ГПУ, я заклікаў да сумлення ўсяго свету <…> Я гавару ад імя тых, хто загінулі! Я выконваю толькі тое, што яны мне даручылі, і зрываю фальшывую маску з гэтых жахлівых злачынцаў. <…> У маёй кнізе я апісаў толькі нязначную частку таго, што я перажыў у савецкіх турмах <…>, пакуль не ўдалося мне <…> выбрацца з Савецкага Саюза».




І падабенства назваў, і блізкасць асобных тэматычных аспектаў (турэмных калізій, згадак пра Салаўкі і Беларусь) кніг «У капцюрох ГПУ» і «У падвалах ГПУ» не выклікаюць сумненняў. Больш за тое, герой «У падвалах ГПУ» быў абмяняны на «савецка-польскай» пагранічнай станцыі Негарэлае — там жа, дзе пакінуў «савецкую імперыю» і Ф. Аляхновіч (К. Альбрэхт, паводле яго сведчанняў, перайшоў мяжу ў «вольны свет» 1 красавіка 1934 года — праз паўгода пасля Ф. Аляхновіча). Многія з фактаў кнігі К. Альбрэхта, як і Ф. Аляхновіча, нават шакіруюць: бялізну з расстраляных мылі і зашывалі арыштаваныя жанчыны — і яе наноў выдавалі вязням; некаторых асуджаных на расстрэл забівалі так, каб не пашкодзіць косці — трупы адпраўлялі ў «спецыяльную майстэрню», «дзе з іх прыгатаўлялі шкілеты для школ, інстытутаў і іншых навуковых устаноў. <…> галоўным пакупнікам гэтых "заказных шкілетаў" з'яўляецца Амерыка».

Да аповесці Ф. Аляхновіча і ў зместавым, і ў фармальным плане блізяцца вядомыя мастацкія ўспаміны Ларысы Геніюш «Споведзь», «У казахстанскай ссылцы» (зборнік «З гісторыяй на Вы» (укладанне Янкі Запрудніка), 1994) Наталлі Арсенневай і ўспаміны Платона Крэня «Унжлаг», надрукаваныя ў часопісе «Полымя» (1999, № 7, 8). Збліжае названыя творы і агульны боль знявечанага чалавека, у якім лагер спакваля забівае ўсё чалавечае; агульныя і тыя летуценні пра далёкую волю, свабоднае жыццё. Як герой «У капцюрох ГПУ» спадзяваўся на амністыю ў гонар N-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, так і герой «Унжлага» жыве тымі спадзеўкамі. Шырэй жа — усе згаданыя творы гучаць сёння годнымі і мужнымі абвінавачваннямі нялюдскай эпосе ўсеўладдзя.

# Вернік паэзіі

## 120 годдзе Тодара Кляшторнага

Многія паэты пачыналі з пошуку сімвала-псеўданіма, які б — як таемны ключ ці код — раскрываў найбольш адметнае і характэрнае ў іх творчасці. Тодару Кляшторнаму рабіць гэта не было неабходнасці: сам лёс паклапаціўся пра тое загадкавае і таямнічае, падарыўшы яму рэдкае і сімвалічнае прозвішча. Так — кляштар, на лаціне clastrum — называлі і завуць у Беларусі (як і ў Польшчы) каталіцкія манастыры, месцы для абраных адзінотнікаў-пустэльнікаў.

Сын бедных сялян Тодара і Наталлі, які з'явіўся на грэшны свет 11 сакавіка 1903 года ў вёсцы Парэчча колішняга Лепельскага павета, не абраў сабе дарогі рэлігійнага служкі, хоць і быў прасякнуты неўтаймоўнай верай і ўсё сваё кароткае жыццё заставаўся адзінотнікам. Веру тую абуджала ўзвышаная сіла паэзіі, а адзіноту прадвызначыў час, які да той сілы ставіўся карысліва і вернікаў ейнай красы намагаўся ператварыць у сваіх рабоў…

Паэтка Вольга Таполя, якая ведала Тодара Кляшторнага з юнацтва, так апісвала яго знешні выгляд: «Высокі, хударлявы, з капной густых, саламяна-светлых валасоў на галаве, з блакітнымі, пад колер васількоў, вачыма, ён быў заўсёды неяк па-асабліваму сумны, нейкім смуткам веяла ад яго. Каля ягоных тонкіх бледных губ рана леглі складкі горычы. Ён рэдка смяяўся, і ягоная ўсмешка таксама была заўсёды сумнай. І яшчэ быў ён ціхі, спакойны, ураўнаважаны, ніхто ніколі не чуў і не бачыў, як ён злаваўся… Увогуле Кляшторны быў вельмі чулы. Калі хто-небудзь з ягоных калегаў чытаў свой моцны верш, які праймаў да сэрца, у Кляшторнага на вачах набягалі слёзы». А вось згадка пра яго пісьменніка Сяргея Грахоўскага: «У 1931 годзе ўпершыню ўбачыў яго ў Доме пісьменнікаў. Высокі, танклявы, з рудаватымі хвалістымі валасамі, а выраз вачэй па-дзіцячаму збянтэжаны і разгублены. Ён быў неверагодна сціплы і далікатны. Амаль у кожным сказе самой па сабе праскоквала "прабачце" і "калі ласка". Ён кожнаму саступаў дарогу, асабліва губляўся перад жанчынамі, чырванеў, міргаў калматымі, як чмялі, вейкамі і гаварыў заўсёды толькі самае



Тодар Кляшторны. Канец 1920-х гг.

прыемнае. За лірыку і шчырасць вульгарызатары на Кляшторнага чаплялі не толькі бірку "правага папутніка", але і абвінавачвалі ў больш страшных грахах».

Сапраўдныя паэты не вучацца паэзіі, яны ў ёй жывуць: сталеюць, здзяйсняюць, паміраюць. Так было і ў Тодара Кляшторнага. У яго творчасці не заўважна вучнёўства. Ужо з першых вершаў дваццацідвух-дваццацічатырохгадовага паэта, апублікаваных у часопісах «Аршанскі маладняк», «Полымя», «Маладняк», «Узвышша», стала зразумела, што ў літаратуру прыйшоў творца з адметным талентам і светапоглядам.

Акрамя вершаванай практыкі была і карпатлівая вучоба: у Каменскай сямігодцы, на рабфаку ў Оршы, у Белдзяржуніверсітэце, а таксама вучоба ў вядомых майстроў мастацкага слова і сваіх аднагодкаў, сярод якіх першымі трэба назваць Сяргея Ясеніна, Язэпа Пушчу і Уладзіміра Дубоўку. Было сяброўства ў літаратурных аб'яднаннях «Маладняк» і «Узвышша», праца на радыё, у рэдакцыях газет і часопісаў, былі ікараўскія ўзлёты і спапяляльныя расчараванні.

Адзін за адным выходзяць паэтычныя зборнікі Тодара Кляшторнага: «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Праз шторм — штурм» (1934). У іх — як на пракаветных скрыжалях — паэт увекавечваў законы сваёй мастакоўскай веры, якая грунтавалася на свабодзе вобразнага асэнсавання быцця, на ўсведамленні першаснасці красы як усеабдымнай і стваральнай сілы.

Тодарам Кляшторным было створана і цэлае вязьмо паэм («Калі асядае муць» (1927), «Беларусь» (1928), «Палі загаманілі» (1930), «Сляды дарог» (1933), «Радзіма» (1934) і інш.), у якіх з дапамогай мастацкай узнёсласці і эпічнай глыбіннасці была не толькі выпісана паэтава рэчаіснасць, але і зроблены адкрыцці-прароцтвы на многія дзесяцігоддзі наперад — і ў сваім мастакоўскім жыцці, і ў жыцці Айчыны.

Першая з названых паэм — «Калі асядае муць» — па праву заслугоўвае месца ў нацыянальным алімпе лірычнай эпікі першай трэці XX стагоддзя, — побач з выдатнымі паэмамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы. Аднак гэты твор Тодара Кляшторнага быў названы шкодным і ад часу сваёй першапублікацыі ў часопісе «Узвышша» доўгія 75 гадоў не перадрукоўваўся. Што не перашкодзіла вечнасці творцы: легендарная паэма прайшла выпрабаванне часам, яе шматкроць цытавалі па памяці (асабліва адно з падагульненняў: «Ходзім мы пад месяцам высокім, // А яшчэ — пад ДПУ (ДПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне пры Народным камісарыяце ўнутраных спраў. — *Рэд.*)»; яна і сёння гучыць па-мастацку бездакорна, спавядальна і прароча. Замоўчванне паэмы аднак перашкодзіла тысячам яе патэнцыйных чытачоў прычасціцца да тых споведзяў і прароцтваў.

Тодар Кляшторны выявіўся найперш паэтам авангарднага мыслення, творцам імажынісцкай школы з яркімі і непаўторнымі перажываннямі, настроямі, пачуццямі, якія ім нібыта і не пісаліся, а выспеўваліся:

*Дзе месяц з зорнае званніцы*
*Вартуе золата кляноў,*
*Хачу спяваць,*
*Хачу маліцца*
*Над чаркай выпітых гадоў…*

Аднак такія спевы і маленні не лашчылі вуха бальшавіцкім ідэолагам, якія сілай вучылі іншай рэлігіі ды іншым багам прымушалі пакланяцца. Эстэтычна вытанчаныя вершы Тодара Кляшторнага, у якіх апяваліся адвечныя чалавечыя пачуцці, гучалі экзістэнцыяльныя роздумы аб жыцці і смерці, выяўляліся традыцыйныя ў паэзіі матывы смутку ад усведамлення непазбежнай несуладнасці паміж светам ідэальным і дадзеным, паміж духоўным і рэальным, — такія вершы тагачаснай вульгарызатарскай крытыкай успрымаліся варожа: як упадніцкія, бездапаможныя, шкодныя.

Атмасфера таталітаршчыны нявечыла і спусташала. Як жыць верніку паэзіі ў скрутным часе ашуканства і бяздушша? У лірыцы ўзмацняюцца ноты песімізму, суму, лёсавай безвыходнасці і прадвызначанасці, усё часцей вершаваныя радкі заканчваюць не колішнія сцвярджальныя клічнікі, а трывожныя пытальнікі:

*Я усхвалёваны чагосьці,*
*Чамусьці сэрца гэтак ные?*
*Ці па далёкай маладосці?*
*Ці над памылкамі сваімі?*

Трагічную безвыходнасць паэт спрабуе лекаваць «бахусавым зеллем», становіцца адным з дзейсных сяброў багемнай суполкі ТАВІЗ — Таварыства аматараў выпіць і закусіць. На пасяджэннях гэтага «таварыства» без старшыні і сакратара за куфлем піва ці келіхам віна збіраліся тыя, хто не мог успрыняць вяршынства пралетарска-класавага мастацтва і хто не жадаў перахрышчвацца ў новую веру. Там чыталіся творы, якія пісаліся для сябе і якія не маглі прабіцца ў друк. Такая беларуская багема была своеасаблівым выклікам тагачаснай сістэме, супрацівам масавасці-«калгаснасці» ў пісьменніцкім жыцці.



Тодар Кляшторны. Турэмны здымак

Аднак і ў гэтым пільным «стваральнікам новага свету» бачылася крамола і непаслушэнства. За ўдзел у ТАВІЗе Тодара Кляшторнага не прынялі ў Саюз савецкіх пісьменнікаў — ён лічыўся толькі кандыдатам у яго члены…

Свой апошні верш з сімвалічнай назвай «Песня пра вясну» паэт змог апублікаваць 27 сакавіка 1936 года. У пачуццях і паэзіі яшчэ жыла непакорная вясна, а ў жыццё надыходзіла восень нябыту. Восенню таго ж года Тодара Кляшторнага беспадстаўна арыштоўваюць і пасля доўгіх месяцаў допытаў і катаванняў у мінскай «амерыканцы» выракаюць да вышэйшай меры пакарання. Паэтава жонка Яніна Міхайлаўна Германовіч (1909—1959) з малодшай дачкой Маяй была выслана ў Акмолінскі карлагер, а старэйшых дзяцей (Тадзіяну і Весналіну) выхоўваў сталінскі дзіцячы дом.

30 кастрычніка 1937 года паэта «свабоднай і шчаслівай» краіны расстралялі. Яго спакутаванае цела знайшло свой вечны супакой ці ў мінскім парку Чалюскінцаў, ці ў Курапатах.

А з душой гэтага шчырага паэтычнага верніка, увекавечанай у яго лепшых творах, ідэолагі той жа «свабоднай і шчаслівай» не спяшалі знаёміць яго суайчыннікаў. Толькі ў 1960 годзе выйшла выбранае з паэзіі Тодара Кляшторнага «Залатое вязьмо», а ў 1970-м — «Выбраныя вершы». Па прычынах цэнзурных у іх не маглі ўвайсці шматлікія эстэтычна вытанчаныя вершы паэта, яго паэтычныя запаветы і тэстаменты…

Імя яго павінна па праву гучаць у адзіным пантэоне тых нацыянальных сейбітаў духа, хто — як колісь сказаў пра іх сам Тодар Кляшторны —

*… пад шляхамі ў сонечнае ранне,*
*Дзе шапаціць бярозавы абрус,*
*Аддаў душу за вечнае змаганне,*
*Распяў душу за маці-Беларусь…*

***А. А.***




Кніга выбранага (2003 г.) з дарчым подпісам дачкі паэта Маі Тодараўны Кляшторнай (2016 г.)

# Адчуванне перамен



Лявон ВАЛАСЮК

### На верандзе старога дома

Незвычайна свяціліся каляровыя шыбіны ў верандзе старога дома, ля якога я апынуўся нечакана, крыху заблудзіўшыся ў малазнаёмым раёне горада.

У святле, што прабівалася з веранды, раптам зацвіў вясновы сад. Чырвона-жоўтымі агеньчыкамі гарэлі ружы, гладыёлусы, макі… Фіялетавыя, блакітныя, сінія званочкі быццам вызвоньвалі вячэрнія каляровыя мелодыі… Белыя рамонкі, як пах нечакага снегу, адбівалі чысцінёю, запрашалі на свята…

Я глядзеў, зачараваны відовішчам… Каляровае багацце, букет незвычайных плямаў паланіў мяне, захапіў… У думках я маляваў гэты агромністы букет кветак на вялікім палатне.

Колер уражвае не толькі мастака. Кожны асобны колер, яго адценні маюць свой непаўторны пах, настрой. І напатканае багацце ўзвышала памкненні душы, хвалявала ўсе клетачкі цела ў цемры восеньскай начы так, што, здавалася, гэты райскі сад раптам апынуўся за суседнім плотам, рос і квітнеў у святле звычайнай электрычнай лямпачкі на верандзе старога драўлянага дома…

### Адчуванне перамен

Дні так хутка праходзяць, што нават не верыцца ў тое, як яшчэ нядаўна было першае снежня…

Але ж хутка праляцеў час і два тыдні апошняга месяца зімы.

На пачатку месяца выпаў снег. І ён стаў адлікам сапраўднай зімы, адліку па снегу, да якога за апошнія часы мы ўжо дастакова прывыклі.

Снег выпаў дружна і залёг, нібы мядзведзь у сваёй бярлозе, надоўга. Снег таптылі, прыезджвалі, перакідвалі з аднаго месца на другое, але ж ад гэтага менш яго не станавілася…

І таму снег цяпер як неад'емная частка нашага жыцця. Ён белы ў навакольных краявідах і ўносіць бадзёрасць у нашае жыццё. Так бывае яшчэ летам, калі навальніца з дажджом прысутнічае з намі як неад'емнае.

У людской мітусні, у іншых праявах гарадскога жыцця адчуваецца праблiжэнне новага года. І гэта, як подых часу, як чаканне нечага незвычайнага, новага, невядомага, нябачанага раней…

Хочацца, каб новы год стаў лепшым за адыходзячы. Заўсёды хочацца лепшага.

### Водар роднай мовы

Мае сваякі жылі ў старой хаце з глінянаю падлогаю. Мне цікава было прыходзіць да іх, бавіць час з Міколкам, Надзейкай. Асабліва падабалася зімою, калі на дварэ быў моцны мароз, ад якога ў садах патрэсквалі дрэвы. А яшчэ мне прыемна было пабегаць па глінянай падлозе. За дзвярыма — снег, мароз, а ў маіх сваякоў у хаце — цёплая ўтаптаная зямля замест драўлянай падлогі.

Пасля абеду Міколка, старэйшы за мяне на два гады, вучыў урокі ля кухоннага стала перад акном. Часам яму дакучалі мухі, малодшая сястра Надзейка і я — ягоны сябра. Хаця я часцяком чакаў яго, як кот — рыбу, каб потым разам пазабаўляцца. Але Міколка не зважаў на нас, а старанна чытаў практыкаванні, родную літаратуру ўголас: — М-а-м-а… Ма-ма… м-ы-л-а… мы-ла… р-а-м-у… мама мыла раму… — упарта гучаў голас майго сябра.

Калі сястра вельмі дакучала Міколку, ён рабіў капрызна-злосны выгляд і крычаў:

— Одчэпышся ты од мынэ чы не! Пабачыш, пийду да бабы Дымынысі і раскажу, як ты мыні заварэш учыты ўрокы на заўтра! Вона тобі надае кычкамы по спыні!..

Надзейка на хвіліну зацiхала, схаваўшыся пад ложак за печчу, каб потым зноў нешта выччварыць ля брата…

Міколка працягваў чытаць, чытаць са смакам, хаця і па складах. Але як гучала літаратурная мова ў яго выкананні! Дагэтуль не магу забыць тое гучанне і ніколі ўжо не забуду выразу яго сур'ёзных вачэй у той момант…

Часам цяпер, слухаючы па радыё ці чытаючы нешта такое, што напамінае дзіцячыя гады, я ўспамінаю гучанне беларускай, роднай мовы. Мовы меладычнай, сакавітай, незабыўнай…

### Выбары

Ужо не памятаю, якія былі гэтыя выбары і за каго аддавалі свае галасы аднавяскоўцы… Тою зімою мы з братам жылі ўжо ў дзеда з бабуляю. Стаяла суровая марозная пара. Намяло сумётаў, глыбокага снегу. За вокнамі дзедавай хаты — траскучы мароз…

Мой бацька з суседам дзядзькам Міколам (а была нядзеля) ездзілі на санях у сяло Тэўлі галасаваць за нейкага дэпутата. Слова «выбары» было для мяне новым, нязвыклым. Але тое, што гэта было свята, добра адчувалася з настрою бацькі і суседа Міколы, усіх людзей.

Вярнуліся мужчыны з выбараў чырвоннашчокія, узбуджаныя… Я зразумеў: выбары адбыліся, прыйшліся ім дападобы. Яны шмат гаманілі, размахвалі рукамі. Словам, пабывалі на свяце…

Яшчэ запомнілася, што бацька прывёз смачных цукерак. Акрамя іх — пачак нечага цвёрдага і салодкага, падобнага на сухія грушы. Той падарунак я доўга грыз, нібы мыш, пакуль не з'еў…

Такі вось успамін. Як імгненне, як палёт зоркі ў начным марозным небе. Але — яркі.

Быццам толькі што дыхаў тым святочным марозным паветрам, грыз смачны цвёрды ласунак, а дзядзька Мікола пазіраў на мяне вясёлымі вачыма, усміхаўся і падміргваў мне, бы нявесце якой…



Фота pibig.info

### Белы «Трабант». Першы снег.

Паехаў у вучэбны цэнтр «Хаймашкер» на чарговыя вайсковыя вучэнні (ужо пачалася восень) разам з хлопцамі нашага аддзялення.

Паднялі нас па трывозе сярод ночы, а мы, ужо звыклыя да такіх «пад'ёмаў», спакойна, без хвалявання і мітусні ўскочылі з двухпавярховых ложкаў, апрануліся за трыццаць секунд і шпарка з батальёна да месца збору…

У нарматыўны час мы ўкладваліся з вялікім запасам. Нам падабалася выконваць усё раней за патрэбны час. Пачуццё годнасці "распірала" нас. Мы адчувалі ў сабе запас сіл і энергіі, і гэта нас радавала…

У нядаўна збудаваным не так даўно вучэбным цэнтры я правёў не болей за дзень, бо прыехаў на УАЗіку са штаба падпалкоўнік Суханаў і забраў мяне назад (на той час я рабіў для камандуючага Групай войск генерал-палкоўніка, Героя Савецкага Саюза Барыса Пятровіча Іванова сакрэтны сшытак па Савецкім і замежных вайсках. Тэрмінова трэба было яго дарабіць, таму мяне вярнулі ў штаб).

Была ўжо позняя восень. Рана пачынала цямнець. І ў Будапешт мы ўязджалі ўжо тады, калі было дастаткова цёмна. Але свежы снег, што падаў нячутна, разбельваў раннюю цемру. Было вельмі ціха, навокал бялеў прыгожы снег. Прыгажосць была незвычайная, асабліва для такога вялікага горада. Да таго ж на дарогах было мала машын…

Пры ўездзе ў горад нас абагнаў белы «Трабант» (як мне раней гаварылі афіцэры нашага аператыўнага ўпраўлення, такія машыны мелі кузаў амаль з прэсаванага кардону!). Я чамусьці звярнуў асобна ўвагу на гэту машыну. Па-першае, быў нейкі ненармальны рух, па-другое, як я заўважыў, за стырном сядзела маладая прыгожая жанчына.

Яна абагнала нас і раптам рэзка павярнула ўправа, а машына, наткнуўшыся на бардзюр альбо дрэва, нечакана адскочыла назад на дарогу і спынілася на праезджай частцы перад намі непадалёк…

Наш кіроўца прытармазіў, і мы ціхенька пад'ехалі да белага «Трабанта». Жанчына выйшла з машыны з тварам, што быў бялейшы за свежы снег, і прыпынілася ля дрэва. Падпалкоўнік Суханаў адчыніў дзверцы, выйшаў з УАЗіка і накіраваўся да прыгажуні.

— Ці патрэбна вам якая дапамога, — запытаў ён на блытанай вугорскай мове.

Жанчына затрасла моўчкі галавой і працягвала стаяць ля дрэва на краю белай ад снегу дарогі.

Атрымалася так, што пры перастройцы на другую паласу дарогі яе машыну нечакана занесла па першым снезе на дрэва. Жанчына не паспела апаматацца, як машыну ад удару аб дрэва адкінула ўпоперак дарогі.

Жанчына-вугорка, канечне, страшна перапалохалася і працяглы час не магла ачумацца ад таго, што раптам адбылося з ёю…

Наш УАЗік рушыў далей наперад, мы ехалі па прамой дарозе, а я ўсё азіраўся назад, на прыгожую жанчыну, што стаяла ўсё так жа ля дрэва, а потым перайшла да сваёй машыны.

### Зямлянкі

Дзяцінства наша агучана рэхам Вялікай Айчыннай вайны. І цацкі былі з ваенных палёў, і гульні адпавядалі тым цацкам… Гільзы розных калібраў і краін, снарадаў, патроны, кулямётныя стужкі і шмат чаго іншага.

У драўляных хатах як ваенны пыл і аскепкі засталіся парожнія драўляныя скрынкі ад снарадаў і мін, плямістая тканіна для маскіроўкі, кацялкі. Фляжкі, шыцікі з алюмініевымі бляхамі «Гот міт унс», доўгія нямецкія штыхі-нажы…

Вайна працягвала існаваць і для тых людзей, каго яна не зачапіла, не кранула. Ёю былі па-рознаму абпалены ўсе вяскоўцы. У кожнай сям'і нехта ваяваў на фронце ці ў партызанах, быў у турме або канцлагеры, трапляў пад кулі. Радня кожнага народжанага пасля вайны была нейкім чынам звязана з ёю. Вайна так проста нікога не адпускала. У мірны час цішыню раптам скаланаў выбух міны ці снарада. Маладыя хлопцы траплялі ў бяду з прычыны свайго свавольства, цікавасці да «цацак» мінулай вайны.

Партызанскія зямлянкі чамусьці былі ў нас асаблівым захапленнем. Капалі зямлю, клалі дошкі, жэрдкі над ямінаю ў блізкім ляску за вёскаю. У баку ад балота выкапалі са старэйшымі хлопцамі вялікую і глыбокую зямлянку. У ёй нават ад дажджу можна было схавацца. Уваход, спуск уніз быў з прыступак. Вялікае «памяшканне», нішы для скрынак з гільзамі і з абоймамі патронаў — усё гэта напаміналa сапраўдную партызанскую зямлянку. Там збіраліся нават тады, калі надыходзіла навальніца. Было прыемна, што дах не цячэ, толькі з боку прыступак крыху зацякала ў «памяшканне» вада.

Капалі зямлянкі і ў кустоўі ля калгаснага сада. Карчы былі густыя. Мы, малыя, прабіраліся скрозь іхняе сплясценне з рыдлёўкамі, дошкамі і капалі нашы славутыя зямлянкі. Не адчувалі стомы, не заўважалі часу. І не было мяжы нашай радасці, калі доўгачаканая зямлянка даводзілася да ладу — мы па чарзе залазілі ў сярэдзіну.

Шмат гадоў пасля, калі хадзіў у грыбы ў лясок Хваіна, я часам натрапляў на нашы дзіцячыя абваленыя зямлянкі. Стаяў і пазіраў на іх, згадваў забавы зусім не бясхмарнага дзяцінства. Гэта была памяць, зарослая травою, імхом. Гэта было рэха мінулай вайны, не зачапіўшай нас сваім вогненным крылом.

### Калгасны брыгадзір

Летні ранак. За дарогай у полі з вышыні чуцён звонкі голас жаўрука. Дзень абяцае быць ясным і цёплым. Маці капаецца на градах у гародчыку, пакуль спрыяе надвор'е: няма спякоты.

Мне не спіцца ранкам. Я знайшоў сабе забаву каля попліва, што ўпіраецца ў невялікі раўчук пад вербамі. З кароткіх паленчын нешта майструю. Так паволі цячэ дзіцячы час…

…На чорным вараным кані наблізіўся да нашага плота мужчына. Змрочны, злосны… Брыгадзір дзядзька Іван, як я спакваля разгледзеў.

— Ты што там капаешся, як квактуха ў пяску! — закрычаў ён раптам да маці на ўвесь свой пракураны голас. — Ану хутчэй збірайся на працу! — крычаў і гарцаваў на кані перад гародчыкам.

Маці ад нечаканага крыку ўздрыгнула, падняла галаву ад градкі і нешта адказала распаранаму брыгадзіру. Ад яе слоў дзядзька Іван, як мне падалося, увесь пабялеў і пачаў так «палівать» маці брыдкімі словамі, што тая не вытрымала і, схапіўшы нейкі прут, выскачыла з градаў да плота, за якім разрываўся ад мацюкоў брыгадзір.

— Як табе не сорамна так ганіцца, дзіця малое побач! Пасаромеўся б хаця яго! Не перастанеш, то агрэю чым пападзе! — выкрыкнула ў гневе маці і махнула прутам у бок брыгадзіра.

Конь захрыпеў і стаў на дыбкі. Брыгадзір ледзь утрымаўся на спіне каняжкі і пачаў кіраваць яго на маці. Але яна не разгубілася, не спалохалася, працягвала сараміць дзядзьку Івана за лаянку:

— Ты што, па-людску ўжо не можаш размаўляць?! Каб вы пагарэлі са сваёю працаю і працаднямі разам з калгасам!..

То быў пачатак шасцідзясятых гадоў XX стагоддзя, калі калгасы на землях заходнікаў толькі-толькі набіралі сваю моц. Яшчэ не так даўно мінулі ліхія ваенныя гады. Прыйшлі Другія саветы, як казалі, і ў Заходняй Беларусі пачалося будаўніцтва калгасаў. За Першымі Саветамі, да вайны, калгасамі ўлада не паспела заняцца.

Цяпер занялася… Так дзядзька Іван выганяў маю маці на працу ў калгас, на палявыя работы…

Усё тады мела бедны, прыгнечаны выгляд. У першую чаргу — людзі…

# Люблю цябе, Нёман






Данута БІЧЭЛЬ

### Нёман каля Каложы

*На Каложы з маёлікавых крыжоў
андарачак зялёны.
Нёман, як прывід, міма пайшоў,
шчаслівы і непрытомны...*

*Сцяжынка ўніз ад царквы —
то бугор, то ўпадзіна,
рыдыкоўна спускацца з гары,
імшалкамі перакладзенай.*

*Хвалі Нёмана каціліся ў заліў.
Паганскія дрэвы нямелі.
Мядзведзь лапай рыбу лавіў.
Дзікуны Каложы не мелі.*

*Будаваў сабе жыллё чалавек
на скрыжалях гасцінцаў і рэк...
Дзе здзічэла Нёман віраваў,
Бог абрыс царквы маляваў.*

*Той малюнак, чароўны, святы,
падобны да малюнка дзіцяці.
Нехта йшоў па люстэрку вады,
на грудзях — абразок Божай Маці.*

*Неба, калі сонейка грала,
з Нёманам злучалася ў паводцы!
Маці Божая на воблачку ў лодцы
з віру Нёмана Каложу збудавала.*

### Час — як рака

*Божа, кожнага з нас у адведзены час,
нібы ў лету, праслаў...
Што каму было трэба ад бясконцага неба,
кожнаму даў...*

*Можна лепшыя справы прысніць.
Можна ўсё змарнаваць і змяніць...
Толькі зблытаць нічога нельга!
Нельга зблытаць Нёман і Niemen!*

*Нёман — з тутэйшых словаў
ад сялянскага голасу —
мудрага беларуса
Якуба Міцкевіча-Коласа...*

*«Niemnie, rzeko moia domowa...» —
у Адама Міцкевіча, родам з Завосся...
Што з Навагрудка, з Любчы
ў Міцкевіча засталося!?...
Слёз санеты з прыгожай Лаўрай
расстання...
Ледзяныя крыгі ўспамінаў,
сумота кахання...
зрэдку згубленым шчасцем
паводкай пральецца...
павіруе і вернецца ў слова —
ці ў паэтава сэрца.*

*Чэслаў Niemen з местачковага неба
Старых Васілішкаў...
нібы з тутэйшых, але
з завоблачных вышкаў,
з невідочных планетаў,
далячыняў-засветаў,
у дзіўны час людскіх справаў
не дзеля забаваў
на фестывалі ў Сопаце ў кашулі
сонечнай выйшаў —
цудоўны версэт ад пагоркаў
наднёманскіх выканаў —
узбунтаваную песню зубра напрадвесні —
усхвалявана, прагна,
непрадказальна прыгожа, —
сонных збудзіў, нахабнікаў абсадзіў,
выпусціў змучаных з лёхаў,
хто слухаў, тых напалохаў —
скалануў, страсянуў, агалмошыў...*

*«Dziwny iest ten świat»...
Суддзяў, артыстаў, залу давёў да шалу...
нябесную магмай агню
і гартанных гукаў, —
вучань балотных ка́няў,
лясных драздоў і зазулькаў!*

*Дзіўны кліч з грудзей маладых
да людзей добрай волі —
і цяпер разбурае змрок —
як глыток вады,
як драбок солі...*

*...У пачатку дарогі, аднойчы...
за кулісамі сцэны
мы сустрэліся вочы ў вочы,
хлапец усміхнуўся дзяўчыне,
якая «пад казачным дубам
над Нёманам сінім»...
шчаслівая на аблачыне...*

*...Аднойчы, у Старых Васілішках...
на каменьчыку сэрца выгрызла мышка...
На сваім панадворку камень
Чэслаў кранаў маладымі нагамі...
А я падняла, калі там была, —
і цяпер у руках трымаю.
Пагрэю рукі хвіліну...
Нарэшце ў Niemen закіну,
прашапчу: «Ляці ў паднябессе!
Лаві сваё сэрца, Чэсік!».*

### Наіўны сказ пра пастушкоў Божай Маці, пра Сонейка Фацімы і пра нас

*Францішак, Жасінта, Люцыя
ў міжгор'і авечак пасвілі...
Паміж хмаркаў— неба адчынена!
Вось яно — пастушынае шчасце!*

*Каля дуба Маці Божая спынілася,
з дзеткамі Ружанчык памалілася...
Пад нагамі ў Маці Божай задрыжала
гадзюкі ядавітае джала...*

*Сонейка ўзыходзіла наадварот, —
не з усходу на захад — з захаду на ўсход.
Напілося сонейка ад Святой крыніцы
на Зямліцы Белай Блакітніцы.*

*Акунулася ў крыніцы ды кажа:
— Недалёка поўзае гадзюка страшная...
Хто тут дыхае — таго джаліць джалам,
у каго жывое сэрца — паліць палам.*

*...Каля Сонейка збіраюцца вяснянкі —
ў ільняных кашулях-вышыванках —
ланцужком трымаюцца за рукі,
з кветачкамі, як прыходзяць
на танцулькі...*

*Вострыя абцасікі дзяўчат
Выціскаюць з джала гадзючы яд...*

*Ланцужок дзявочы лебядзіны
сонечным жывым дазорам стаў.
Пазалоту вежаў і далінаў
апляваць і вынішчыць не даў!*

*...Толькі змей-падкорчык
з-пад трухлявай дзічкі —
на людскія скарбы вострыць нож:
Белую Зямлю Блакітніцы-Сінічкі,
як сваю, прадае за юдаў грош...*

*А вяснянкі Сонейка не кінулі —
ў лебядзіны ланцужок па пёрку скінулі,
дзе Люцыя, Францішак і Жасінта...
на ўзарваным градам полі
сеюць жыта...*

*дзе каліна ў лузе не ламаецца,
у канюшынцы чмелі капыляюцца...
За Дняпром, за Цісай і Дунаем
на Сонейку пякуцца караваі.*

*Багародзіца, вясна, любоў і праўда!
Пастушкоў зямлі яднае праца.
Столькі планаў, спадзяванняў ды ілюзій!
З-пад карчоў вайны вылазяць людзі!*

*Птахі зноў па пёрку з крыльцаў скінулі,
кроў закрылі белаю пярынаю.
Хто аслеп ад болю,
той не стаў відушчым...
У пажарах не гарыць героаў душы...*

*Думкі птахаў не развейваюцца ў дыме...
Душам сняцца сны аб Радзіме.*

### Чысцец

*Божанька, Ты Справядлівы,
Бязмежны, Велікадушны!
Ты для людзей задарма
аддаў акіяны, крыніцы і сушы.
А людзі, такія розныя, —
і слабыя, і дужыя...*

*...Чысцец... Спачатку
ў балотнай лужыне,
у мутнай лужыне... чысціцца душы...
З шалупіння грахоў, адмоленых
і не адмоленых,
у вірлавіне без дна, ду́шы
спяць без пуховай падушкі...
на прутах, у жалезных кратах...
Не магу ўявіць, ці хоць якая, адна,
можа вырвацца з той калатушы...
Такая, як я, слабенькая,
там натуру гартуе.
Не енчыць, не лемантуе, не пішчыць.
Няма анёла. Душа маўчыць.
Кожная — у адзіночцы,
у металёвай бочцы —
у невядомым краі,
пра які мы тут, пакуль дыхаем,
не ўяўляем.*

*...Магчыма, калі зляціць
грахоў шалупінне,
прыйдуць анёлкі,
душы спаўюць у чыстыя полкі...
Калі новая скура пачне зрастацца,
змогуць душачкі пакалыхацца
ў празрыстых затоках.
Ніхто не пазнае таго, хто пабач,
але падтрымае таго, хто тоне.
Прыйдзе на бераг калючы вожык
па цёплай райскай расе...
Набярэ іх, без ножак, у лазовы кошык...
да райскіх варот панясе.
Апостал Пётар, спакойны,каля варот —
каго прапусціць, каму —
ад варот паварот!
Назад на пятнаццаць сутак
ці васямнаццаць год!*

*...Пакуль міласэрныя людзі
іх грахі не адмоляць
у адзіным святым каталіцкім
і апостальскім касцёле.*

### Пахаванне Кастуся Каліноўскага

*Кастусь Каліноўскі
касцямі прабіўся з гліны —
Беларусь маладая выраем
зляцелася ў Вільню!*

*Беларусь маладая на золку
заняла Гедымінаў пляц —
перад сваім героем
з паўстанцамі паміраць!*

*Што сказаў Кастусь перад сконам
нашчадкам з пятлі, —
як паўстанец, у малітве-казанні
прамовіў мітрапаліт.*

*...Дзецюкі! Людзі!
Нашаму Кастусю на грудзі,
на дамавіну, на белую гліну,
на Радзімы скрываўленай сэрца,
якое сто пяцьдзясят пяць гадоў
у пятлі вечных ворагаў б'ецца, —
кіньце адну слязіну...
Няхай узарвецца!*

*Чырвоныя ружы над Вільняй
квітнелі ў белых аблоках.
Нараджэнне Божага Сына
Езуса Хрыста недалёка!*

*У белых аблоках над Вільняй
З крыві чырванеюць гваздзікі.
Езус Хрыстус Сын Божы уваскрос —
каб мы тут жылі — нарадзіўся!*

***22 лістапада 2019 г.***

### Люблю цябе, Нёман!

*Палюбіла цябе, Нёман,
калі Яська, мой тата,
сплаўляў плыты за паромам,
каб зруб паставіць на хату.
Ані Рэні, ані мяне яшчэ не было.
Звініць тваіх змрокаў святло!*

*Па лузе насустрач, маленькая, бегала,
Але скакаць са стромага берага
ў віры, у цянёты белыя,
не спяшалася...
У тваіх вірах згубіцца баялася.
А хто — смелы, віроў не баіцца,
той спіць вечным сном ля гасцінца...*

*А мела я ў Бурносах сяброўачку,
а сяброўачка мела лодачку.
На лодачцы з ёй мы плавалі
па цячэнні, упоперак і насупроць...
Веславала я на твае хвалі,
нібы коніка за аброць.*

*А паехала я вучыцца
не ў сталіцу, каб не згубіцца.
Першую ноч у горадзе
я правяла на вуліцы —
беспрытульніцай.
Шукала хоць якога зацішка.
І прывёў мяне мой анёл
на Мост святога Францішка...
Зірнула я з моста — а ўнізе хвалі
мяне пазналі і прывіталі...
і паднялі з непрыветнай зямлі
ў сваё зорнае неба.
І мне стала цёпла, спакойна і добра.
Я зразумела: тут шчасце,
самота і доля...*

*Тут я дома.
Спусцілася з горкі ўніз —
мяне лодачка ціха паклікала —
я падумала пра сяброўачку...
і ўскочыла ў лодачку
пісьменніка Васіля Быкава!
Ані марыла, ані гадала —
чыя лодачка мяне загайдала!*

*Так і хаджу па мосце —
то на яве, то ў сне.
Ніхто не чакае і не вітае мяне.
Тут віры-крыгаломы,
параходы, лодкі, паромы...
Крочу самотна, вольна і годна...
Люблю цябе, Нёман —
ад Бурносаў да Гародні.
Тут я дома!*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (199), сакавік 2023 года

# Аўтапартрэт у шаўковай кашулі

## Словы пра самога сябе, як ты разумееш



Адам ГЛОБУС

### Конь

Па каня хадзіў дзед Бронік, двойчы на год: першы раз вясною, калі садзілі бульбу, другі раз летам, калі тую бульбу трэба было абганяць. Баба Ядзя вадзіла каня, а дзед трымаў і накіроўваў плуг. Я стаяў на паўзмежку пад яблыняй і чакаў, калі конь вызваліцца і мне дазволяць праехаць на ім праз увесь двор. Дзед падсаджваў мяне, і я ўладкоўваўся на шырокай конскай спіне каля самай грывы. Баба прытрымлівала мяне за нагу, а дзед вёў каня як мага павольней. Мне было чатыры гады, і той чорны, як вугаль, конь падаваўся мне вялізным, нібы я ехаў на рухомай гары. Ад страху ў мяне перахоплівала дыханне і спынялася сэрца. Абедзьвюма рукамі я трымаўся за чорную грыву. Хацелася як найхутчэй даехаць да шэрай дашчанай брамы. Нарэшце спакойны і стомлены конь спыняўся каля пограба, я саслізваў з конскай спіны ў дзедавы рукі, а з іх саскокваў на зямлю. Дзед з бабай мяне хвалілі, казалі, што я спрытны і мужны хлопчык, які не баіцца і можа ездзіць на вялікім чорным кані.

### Масла

Хварэю. Застудзіўся, гуляючы ў завіруху на Захаравым балоце, і сяджу цяпер на ложку. Баба Ядзя націрае мяне камфарным маслам. Пахне на ўсю хату. Водар здароўя — пах камфарнага масла. Праз усё жыццё помніцца той густы водар выздараўлення.

### Пудзіла

Зялёныя невялічкія ягады на вішнях толькі-толькі пачалі ружавець, калі баба Ядзя папрасіла дзеда Броніка зрабіць пудзіла. «Не паставім зараз пудзіла, і шпакі здзяўбуць усе ягады падчыстую…» Дзед змайстраваў з рэек крыжавіну, на якую мы нацягнулі стары бабін жакет і зашпілілі яго на ўсе гузікі. Замест галавы паставілі шчарбаты гладыш, на яго надзелі кепку, якую мой тата на заходнебеларускі манер называў cyklistówka. Пудзіла прымацавалі вяроўкамі да камля так, што яно ажно ўзвышалася над дрэвам, і нават самы лёгкі ветрык пахістваў пустыя рукавы сіняга жакета. Пудзіла надзейна ахоўвала сад, і вішні выспелі да смачнай сакавітасці. Узняўшыся на лесвіцах, мы іх збіралі ў эмаліраваныя бітончыкі, перасыпалі ў тазы, мылі і варылі з іх сочыва. Пакуль баба Ядзя сачыла за сочывам на керагазе, дзед Бронік зняў пудзіла, рэйкі разам з кепкай схаваў у хляве, а шчарбаты гладыш і парваны вятрамі жакет я занёс на сметнік у Вараксаву яму.

### Хлеб і вада

У хаце бабы Ядзі я меў абавязкі. Яны з'явіліся ў тыя дні, калі я навучыўся катацца на дарослым двухколавым ровары. Ездзіш на дарослым ровары? Тады ты — дарослы і можаш зганяць у краму па хлеб, прывезці шэсць боханаў чорнага, замацаваўшы іх вяроўкаю на багажніку. Здолееш прывезці хлеб — то і вядро вады прынесці зможаш. Я бег да калонкі, напампоўваў у вядро літраў дзевяць вады і цягнуў у хату, дзе пераліваў яе з вядра ў выварку. З тых даўніх часоў я з радасцю хаджу ў краму па свежы хлеб і люблю прыносіць з крамы ваду. Хлеб і вада — мае абавязкі з дзяцінства, важныя абавязкі.

### Мокры мех

«Цяпер чалавек ведае, што ён, нібыта цыган, існуе на ўзбочыне свету, дзе і змушаны жыць…» — напісаў Жак Мано ў тэксце, які назваў «Выпадковасць і неабходнасць». Пра нешта падобнае думаў я ў юнацтве, стоячы на адхоне шашы паміж Наваельняй і Навагрудкам. На галаве і на плячах у мяне быў мех з-пад мукі. Менавіта ім, як і ўсе тагачасныя звычайныя беларускія сяляне, я закрываўся ад дажджу, калі пасвіў каровы. Пільнаваў, каб якая з іх не выйшла на шашу і не падсунулася пад грузавік. Раніцай, пад дробным летнім дажджом, з цяжкім мехам на галаве я зразумеў, што мне ёсць куды вяртацца, што я заўжды змагу прыйсці на ўзбочыну сусвету, у нашу вёску Babaкомшчыну, да кароў, пад дождж.

### Пуга

Герой апавядання Фёдара Янкоўскага «Цёзка» — Язэп Янкоўскі так кажа пра ўласную пугу: «А пуга? Першая ў мяне свая, не панская. І пуга ж тады была панская не свая…». Во як мы, беларусы, жылі тут за панскімі часамі: сялянскі хлопец не меў нават уласнай пугі, панскаю пасвіў панская ж статкі. У дзяцінстве я таксама пасвіў дзедавы авечкі і дзедаву карову Зорку з белай мецінкаю на лобе і, як той Язэп Янкоўскі, не меў сваёй пугі. Дзедаву карову я пасвіў добрай дзедавай пугай з гладкім ядлаўцовым пугаўём, што, зрэшты, і правільна. Як маеш ты карову, дык маеш і пугу. Нашто табе пуга без каровы? Забаўляцца? Жоўтыя кветкі дзьмухаўцоў ссякаць тонкім і пякучым кончыкам? Пустое блазнаванне! Так і пражыў я без уласнай пугі.

### Пастух

Раскажу пра пастуха, які пасвіў авечкі на беразе Дзвіны. Я тады працаваў з археолагамі ў вёсцы Пруднікі. Люда Дучыц даследвала курганныя групы, а Вадзім Шадыра раскопваў старажытнае гарадзішча. Я маляваў знаходкі. Раз на тыдзень мы некуды ездзілі. Паглядзелі Друю і Піедрую, завіталі ў Дзвінск, які латышы называюць Даўгаўпілсам, сабраліся ў Краславу. Каб не рабіць вялікі крук праз Друю ды Піедрую, мы дамовіліся з пастухом, што ён перавязе нас праз Дзвіну на лодцы. Ён перавёз мяне і Вадзіма. Краслава нам спадабалася: акуратнае дагледжанае мястэчка, якое некалі латышы хацелі памяняць на Браслаў, але беларусы не пагадзіліся. Там прыдбаў я пару бутэлек вішнёвага віна. Адна бутэлька мела крывое рыльца. З Краславы мы вярнуліся на бераг рэчкі, дзе нас мусіў чакаць пастух. Пастуха мы не пабачылі, лодка стаяла на другім беразе, а з неба ліло так, што згадвалася біблейская гісторыя пра сусветны патоп. Мы схаваліся пад вялікай вярбой і пілі віно, каб сагрэцца. Там мне прыйшла думка, што варта пераплыць Дзвіну і на лодцы вярнуцца па Вадзіма. Я распрануўся і паплыў. Вадзім мяне адгаворваў, але я казаў, што маю разрад па плаванню і рэчку пераплыву лёгка. Плынь у Дзвіны моцная, мяне зносіла. У халоднай вадзе магла і сутарга нагу скруціць, але я спадзяваўся на лепшае. Тым лепшым у гэтай гісторыі быў, як ты здагадваешся, пастух, які сустрэў мяне на сярэдзіне Дзвіны. Трымаючыся за борт лодкі, я даплыў да берага, дзе на мяне моцна насварыўся Вадзім. Потым мы абсыхалі ў хаце пастуха, а ён расказваў, як на тым месцы, дзе я спрабаваў пераплыць Дзвіну, патанула ажно шэсць чалавек. Яны выбраліся на сямейнае свята, лодка перакулілася, і ўсе парынулі ў халоднай вадзе. Напамінам пра тую гісторыю з пастухом, які спазніўся да нас бо дапамагаў жонцы зграбаць сена, каб не прамокла і не пагніло, мне засталася бутэлька з крывым рыльцам. Бутэльку тую я шматкроць намаляваў у розных нацюрмортах. Малючы крывое рыльца, згадваў пастуха, які мяне выратаваў. Вядома, я мог бы і сам даплысці да другога берага, а мог бы і не даплыць…

### Шаўковая кашуля

Пандэмія. Карантыны. Ізаляцыі і самаізаляцыі. Вандроўкі і падарожжы адкладаюцца на няпэўны тэрмін. Добра, што можна пайсці і памаляваць парк, рэчку і горад. Можна ў роднае мястэчка з'ездзіць, памыць рукі вадою з калонкі, з той самай, у якой набіралі ваду, каб цябе — прывезенага з радзільні — першы раз пакупаць. Выдатна. Сціпла і па-беларуску. Праўда, жаданне вандраваць зусім не знікае. Наадварот. Хочацца паехаць як далей. На бераг Індыйскага акіяна, на Сіямскае мора, у Бангкок. Што ў тым Бангкоку? Пасялюся на верхнім паверсе высознага гатэля. Прыму душ. Спушчуся на першы паверх. Зайду да краўца — індуса ў бэзавай чалме. Папрашу яго пашыць мне шаўковую кашулю з доўгімі рукавамі. Кравец разы са тры перапытае, ці сапраўды мне трэба доўгія рукавы ў шаўковай летняй кашулі. Запэўню індуса, што і летнюю кашулю варта зрабіць з доўгімі рукавамі. Праз якіх паўгадзіны ў мяне будзе новая кашуля, якую буду насіць і ў Мінску, каб згадваць Тайланд і бераг Сіямскага мора з вялізнымі камянямі памерам з беларускі пограб.



Фота letur.org

### Свой сабор

Знайсці адпаведны сабе сабор цяжка, як адшукаць менавіта сваё. Лягчэй схапіць першае, што трапіцца пад руку, і абвясціць усім навокал — вось яно маё. Так і хапаюць, так і прысабечваюць, так і крычаць на ўвесь свет пра чужое, нібыта яно — схопленае і ўзнятае над галавой — адразу робіцца тваім. Не робіцца. Ведаю, бо доўга вучыўся адрозніваць адно ад другога і чужое ад свайго. У чужых саборах мне заўсёды халодна. Нават у фуфайцы — дрыготка працінае. Нават спякотным летам у чужым саборы ты адчуваеш скразняк. Цёпла толькі ў сваім саборы. Заходзіш, і хваля цяпла накрывае цябе. Утульна. Тваё. Святло таксама тваё, сакавітае і залатое. Шэпты, спевы і галасы — твае. Толькі адчуўшы і пабачыўшы сваё, ты зможаш расказаць і пра чужое, пра іншае, пра далёкае. Свой сабор я знайшоў у Венецыі. Зайшоў у царкву Святога Марка і зразумеў — маё. Каб не згубіць радасць ад знаходкі, я выйшаў на пляц. Я не стаў спраўджваць адчуванні. Нашто? Адчуў, зразумеў, паверыў. Ёсць у такіх з'явах непаўторнасць моманту. Другога такога здзяйснення не адбудзецца. Перакананы: у большасці з людзей такога і тут не будзе, бо гэта не іх сабор. Доказ я адшукаў у спадчыне рускага мастака-неакласіцыста Паўла Корына, у яго «Лістах з Італіі», дзе апісана наведванне сабора святога Марка, якое адбылося 13 траўня ў 1932 годзе: «Раніцай накіраваліся ў Сан-Марка. Усярэдзіне ён увесь у мазаіцы. Мазаікі збольшага старадаўнія, XII стагоддзя, ёсць і новыя, але іх, калі глядзіш на агульнае, не заўважаеш. А агульнае ўражанне дзівоснае. Сабор памераў невялікіх. Звонку ён вельмі пышны і разам з тым манументальны. Уздымаліся на кампанілу. Адтуль відаць усю Венецыю, кругом яна ў вадзе». Для Паўла Корына ён — Сан-Марка, не святы, не свой, пышны. Павел Корын разглядае Сан-Марка як мастацтвазнаўца, чалавек, які прыходзіць у сабор на працу: гэта мы бачым, а тое не заўважаем. Кавалкі, фрагменты, аскепкі… і ўсе яны не складаюцца, не збіраюцца, не замацоўваюцца. Сан-Марка для Паўла Корына — адзін са шматлікіх будынкаў, якія ён наведаў у Венецыі. У мяне ўсё інакш… Расказаў пра свой сабор і задумаўся: ці варта такім сакрэтам дзяліцца?.. Варта…

Заканчэнне на стар. 7 »

# Аўтапартрэт у шаўковай кашулі

## Словы пра самога сябе, як ты разумееш

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6



Фота tournavigator.pro

### Via Appia

Мэта філасофіі — зрабіць чалавеку палёгку, прапанаваць яму такія паводзіны, якія падораць радасць. Так падумалася, калі прачытаў у кнізе Марка Тулія Цыцэрона «Пра старасць» наступнае: «...нам ніколі не ўхваліць належным чынам філасофію, падпарадкоўваючыся якой, чалавек можа ў кожным узросце жыць без цяжкасцяў». З іншага боку: «нам ніколі не ўхваліць» такую філасофію, бо яе проста няма.

Што ёсць? Не стану казаць пра іншых, скажу пра сябе...

Мне пашанцавала, я з'ездзіў у мясціны, дзе некалі жыў славуты палітык Марк Тулій Цыцэрон. Я пахадзіў каля мора і палюбаваўся гарамі, якімі, пэўна ж, любаваўся і ён. Калі мне робіцца цяжка, я згадваю марскую затоку, згадваю Via Appia і Tomba di Cicerone, згадваю палі з духмянымі памідорамі, і мне робіцца лягчэй і спакайней. Кожны з нас мае што згадаць, каб стала трохі лягчэй.

### Выкладчык і помста

Многія мастакі і пісьменнікі мяне не любяць і робяць мне розную дрэнь. Такіх я ненавіджу. Спакойна збіраю нянавісць, кроплю за кропляй назапашваю і чакаю моманту, каб за ўсе іх паскудствы адпомсціць. Момант такі надыходзіць, і я зларадна помшчу... Ці сорамна мне за гэткія паводзіны? Зусім не. Як яны ставяцца да мяне, так і я да іх, хіба што — маё стаўленне больш адкрытае і больш жорсткае... Яшчэ ў маладосці пачуў пра сябе ад інстытуцкага выкладчыка: «Глобус? Гэты будзе помсціць. Ён небяспечны». У той момант выкладчык мяне не бачыў, а таму я ніколькі не сумняваўся ў ягонай шчырасці. Можна было, пачуўшы такое, паспрабаваць адмовіцца ад зларадласці, жорсткасці і помслівасці. У нейкія імгненні я нават стрымліваюся, каб не нашкодзіць тым, хто мяне любіць (ёсць і такія, не сумнявайся), але гэткае стрымліванне адно адкладае мае баявыя дзеянні на кароткі час.

### Генерал

«У выдавецтве ў цябе генеральская пасада...» — між іншым кажа мне Павел. «Ну што Вы, якая генеральская пасада, я звычайны літаратурны рэдактар...» — спрабую саскочыць з вайсковай іерархіі. «Я пацікавіўся ў Маскве. Сур'ёзныя людзі казалі, што ты сапраўдны літаратурны генерал. Ды і сам я бачу, што ты генерал». Спрачацца з Паўлам бессэнсоўна. Пагатоў мы пілі гарбату з цукеркамі ў ягонай кватэры. Гаспадару было важна, каб у яго ў гасцях сядзеў сапраўдны генерал і частаваўся духмянай гарбатай са скрылікам лімону. Акрамя Паўла, ніхто і ніколі мяне не называў генералам.

### Узорныя творы

Ёсць творы, якія не толькі перачытваеш, каб натхніцца, але аўтарам якіх я хацеў бы пабыць і напісаць іх працяг. Гэта зборнік апавяданняў Джэймса Джойса «Дублінцы» і «Дзевяць апавяданняў» Сэлінджэра, гэта «Запіскі каля ўзгалоўя» Сэй-Сёнагон і «Грэгерыі» Рамона Гомеса дэ ла Серны, гэта «Трохрадкоўі» Басё і «Пяцірадкоўі» Сайгё, кніга апавяданняў Вячаслава Адамчыка «Дзікі голуб» і кніга вершаў Міхася Стральцова «Мой свеце ясны», аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» і зборнік вершаў Максіма Багдановіча «Вянок»... У вялікай ступені ўся мая літаратурная творчасць і ёсць працягам найперш гэтых узорных кніжак.

### Іх няма, для мяне...

Шмат для каго гэтыя беларускія пісьменнікі існуюць, а іх творы часам чытаюць. Нават я цераз уласную непераборлівасць спрабаваў іх прачытаць. Прызнаюся: надоўга мяне не хапала. Каб мае наступнікі не чынілі такіх памылак і не марнавалі жыццё, падаю спіс аўтараў, чыіх кніг я не стану і разгортваць. Усіх, хто ўваходзіў у літсуполку «Малатняк» — раз. Усіх, каго Барадулін называў «Бондар-каманда» — два. Не стану чытаць і Бядруся Проўку, і Каркадзя Уляшова, і Гіла Нілевіча, і Шывана Амякіна, і Гівана Ыгрынава, тры. Пра гора-пісакаў з пакаленняў наступных я напішу іншым разам. Пачакай — атрымаеш.

### Вераніка і ледзянец

У сне я расказваў натуршчыцы Вераніцы пра цыркачоў-палітыкаў. Вераніка слухала-слухала, а потым вазьмі ды папракні: «Весці размову з жанчынай, трымаючы ў роце цукерку — кепскі густ!». Не паспрачаешся, бо тут усё пагана: гутарка пра дэмагогію і фокусы палітычнай эліты, голая Вераніка з яе вытанчаным густам, ледзянец, які даводзіцца даставаць з-за шчакі... Дастаў і паклаў на сталёвы спадачак. Калі пачаў абмываць пальцы халоднай вадою, прачнуўся; і так мне зрабілася шкада недасмактанага лімоннага ледзянца, што я заплюшчыў вочы, уявіў сябе ў студыі, дзе пакінуў металічны спадачак, акуратна закінуў ледзянец са спадачка ў рот і толькі тады супакоіўся.

### Бяда

Разглядаў старыя фотаздымкі, і падумалася пра тое, што ў большасці маіх былых сяброўкаў жонкі — дурніцы, як у многіх былых сяброўкаў мужы — ідыёты ды самыя сапраўдныя боўдзілы. Чаму я не бачыў гэткай досыць відавочнай заганы раней? Чаму, бачачы дурноту, спадзяваўся, што мужы і жонкі маіх сяброў возьмуць ды паразумнеюць? Здурнець значна лягчэй, чым паразумнець, і многія сяброўкі з сябрамі пацілу атупелі, апусціліся і здзічэлі. Дэградацыя сяброўак і сяброў — бяда, якую я перажываў цяжка. Кепска было, але я не скарыўся і назбіраў сабе новых сяброў і сяброўак з больш разумнымі жонкамі ды мужамі.

### Absolut

Здараецца — вып'еш, а потым нават не помніш, што піў. Падобнае са снамі бывае. Вось толькі што помніў ты салодкі сон, а ўжо і забыўся, а самае крыўднае — і не ўспомніш яго ніколі. Гэтым разам я піў гарэлку. Добра помню паўлітровую акуратную бутэльку са шведскім Absolut'ам. Піў проста з рыльца, лежачы ў ложку, і так усю выжлукціў. Каб не піць без закускі, грыз тумбачку. Вып'ю горкай, пагрызу дрэва і ляжу, у столь гляджу. Тумбачку я моцна папсаваў. Шкада яе, бо не адновіш. Добра, што пасля Absolut'у галава не балела. Зусім бадуна не было. Я так узрадаваўся, што пасля выпітага паўлітра ў мяне ясная галава, так узрушыўся, што прачнуўся. Прыснілася мне п'янка з пагрызенай тумбачкай. Сон я той не забыўся і вось запісаў. Мо ён некага павесяліць...

### Паштоўкі

Перабіраў і разглядаў старыя паштоўкі з тварамі любімых кінаакцёраў. Нечакана для сябе зразумеў, што я найбольш любіў тых акцёраў, услед за якімі і разам з якімі спяваў. Вядома, я вельмі любіў і тых, за якімі паўтараў вершы і дэкламаваў маналогі з класічных п'ес, з незабыўнымі «Быць альбо не быць» ці «Фігара тут, Фігара там»... І ўсё ж спевакоў любіў дый і цяпер люблю значна мацней.

### Нос і кот

Халодна ў кватэры, таму даводзіцца ўключаць абагравальнік і перастаўляць яго з аднаго пакоя ў другі. Раніцай я перакаціў абагравальнік са спачывальні ў залу, уключыў, пабег і хуценька зачыніў дзверы ў спачывальню, каб цяпло не выцекла ў калідор і кабінет. Я так мітусіўся, так шкадаваў цяпло спачывальні, што, зачыняючы дзверы, ударыў імі сабе па носе. Моцна даў. Думаў, што даволі вострым кантам знёс усю скуру з носа. Абышлося: скуру не садраў, але нос разбіў знатна. Ён цяпер чырвоны, як у Дзеда Мароза. Да пабітага носа я папрыкладаў лёд, але трымаў яго не доўга — баяўся застудзіцца. Не хапала мне яшчэ якога гаймарыту. Чорт, чорт, чорт! Разглядаю нос у люстэрку і згадваю балгарскую показку пра сквапнага габраўца, які адсякаў катам хвасты, каб хутчэй выбягалі з хаты, і меней цёплага паветра выветрывалася. Раней я думаў, што показка пра бясхвостых катоў — скантруяваная метафара. Цяпер ведаю, што не метафара гэта, а ўбачанае здарэнне, за якім стаіць факт адсякання дзвярыма кацінага хваста.

Цяпер, у час пандэміі, хаджу я ў масцы, і ніхто з чужых не бачыць мой разбіты дзвярыма нос.

### Маўчанне

Казаць пра людзей гадкую праўду — страшна; вярзці пра іх лісліваю хлусню — гідка; лепш бы мне памаўчаць, лепш бы...

### Вецер і дрэўца

Учора ўвечары ў квартале прапала электрычнасць. Давялося запаліць свечку. Сядзеў у фатэлі. Глядзеў на агеньчык. Успомніў, што пад маім акном вецер хістае маладое дрэўца. Хістае так, што вось-вось вырве з зямлі. Пайшоў і матузкамі прывязаў дрэўца да штыкецін. Пакуль вошкаўся з дрэўцам, на мяне з падазрэннямі пазіраў міліцай, што прыехаў вартаваць натарыяльную кантору — сігналізацыя спрацавала. Вярнуўся ў фатэль, каб яшчэ пасядзець у цішыні і спакоі, але ў квартал падалі электрычнасць, і ўсё вярнулася ў звычайнасць.

# Зіма за вокнамі



Дар'я ЛІС

***

*Гэтыя хлопчыкі — дзеці цемры,*
*грахі неадмоленыя*
*сваіх дзядоў.*
*Павернешся спінай —*
*памрэш першым.*
*Ты слабак.*
*І твой сцяг — адстой.*
*Чужыя? Свае?..*
*Варта спэўніць?*
*Ідзі.*
*Твае неба з табой.*

***

*яна хацела мець сэлфі*
*на фоне рэвалюцыі.*
*баялася не паспець,*
*не дагнаць,*
*тармазнуць,*
*але рэвалюцыя*
*крыху расцягнулася*
*па восені*
*да зімы.*
*бчб-шалікамі,*
*сцягамі са старых шафаў,*
*непаетымі шашалем.*

***

*З нуды ў адчай*
*Перапаўзаеш.*
*Марнуеш дні,*
*Не спіш начамі.*
*Ні кніг,*
*Ні дарог —*
*Маўчанне.*

***

*Нашых на вуліцах мала —*
*Нашы па хатах offline.*
*Флэшбэкі з мінулага —*
*Марная справа.*
*Па горадзе ходзіць чума.*

***

*Я застываю ў зіме,*
*У снежна-ледзяным адчаі.*
*Усё, што кажаш ты, — не мне!*
*Не мне і вершы прысвячаеш...*
*А я застыла ў зіме,*
*У віне абвергнутых*
*Пачуццяў.*
*Без веры ў лета,*
*Сонца,*
*Келіх з белым — мне!*
*На стале.*
*Знікаю ў зуме,*
*Працы,*
*Без любові*
*Гігабайтамі адчаю.*

***

*Каханне быццам паветра*
*За тысячы кіламетраў*
*Ты адчуваеш мяне*
*Каханне*
*Жыве*
*Ў маёй*
*Галаве*
*AVE*

***

*Мокры горад.*
*Каштаны.*
*Масты.*
*Быццам прывід з мінулага — ты!*
*Ходзіш вулкамі мулкімі...*
*Ксты...*
*І лісты, бы за кра́тамі дым...*
*Паміраць маладым?*
*Не аб тым, але факт —*
*Паміраць страшна тым,*
*Хто не бачыў масты,*
*І каштаны,*
*І горад стары*
*З пахам кавы і кніг,*
*З ката́мі на дахах...*
*Тут дзяўчына танцуе — заўжды!*
*І, на жаль, гэта зноўку не ты...*
*А табе застаюцца лісты,*
*Бо за кратамі іншы,*
*Не ты.*

***

*Хтосьці ляціць з маста.*
*Хтосьці ідзе на вайну.*
*А дзесьці шпіталь,*
*Кісларод і ты.*
*Такі расклад.*
*Ці будзе камусьці цуд?*
*Добры калядны цуд?*
*Кагосьці чакае турма.*
*Хтосьці памрэ маладым.*
*Дарма.*
*Патрэбен ты*
*(І камусьці — цуд!).*
*Дыхай мацней.*
*І проста вярніся*
*Жывым.*
*Там снег.*

***

*Ты не ў форме — факт.*
*Не жывеш,*
*Не працуеш,*
*Не любіш...*
*Вось гэты прасцяг,*
*Гэты лес — што там яшчэ будзе?*

*Ты не можаш сказаць:*
*Дрэнна мне, людзі!*
*Я — пас, ніякага драйву...*
*Стамілася, згас той запал,*
*Што заўжды*
*Проста быў ува мне.*

*Ты не можаш сказаць пра сваё...*
*Каму? Таму, хто ўжо ў турме*
*Спіць на голых прутах...*
*Едзе дах без сяброў і кніг.*
*Не даходзяць лісты.*
*І гэта не катаванне, яшчэ не...*
*Проста знаёмы да болю страх.*

*Ты не можаш сказаць ім*
*Пад небам, адкуль не снег*
*Не дождж. Хто жыве ў падвале*
*Сырым, а раней на 10-м жыў.*
*Ты баішся вышыні,*
*Самалётаў і ліфтаў.*

*Ты нікому не можаш*
*Сказаць пра свой жах, ціск,*
*Дэпрэсіўных мастакоў*
*І нізкі гемаглабін.*
*Ты не можаш сказаць ім.*
*Там прастрэльваюцца нават сны.*

***

*Зіма за вокнамі,*
*Трывога ў сэрцы.*
*Як адагрэцца нам*
*І не згубіцца?*

*У гэтым снежным свеце.*
*На градусніку нуль пяшчоты,*
*Па адчуваннях мы*
*Сышлі ў мінус ці не назаўжды.*

*Такія халады*
*І абыякавасць*
*Вачэй і рук дваіх.*

***2020—2022 гады***

# Пачатак сакавіка



Ала НІКІФОРСКАЯ

***

*я здаюся Госпадзі*
*у палон*
*у паражэнне*
*у непазбыўны боль*
*Твая воля Госпадзі*
*Твая перамога спрадвечна*
*і сёння*
*і заўтра*
*і навекі вякоў*
*я — як той евангельскі неразумец*
*што збудаваў храміну на пяску*
*усе мае храміны рассыпаліся*
*і на гэты раз не адбылося выключэння*
*развеяліся ветрам*
*размыліся дажджамі*
*якіх ужо два тыдні*
*як не капнула ні кроплі*
*а можа найболей —маёю ўласнай слязою*
*якая ўжо сто гадоў не падала*
*бліскавіцай з вачэй*
*сухі боль — мая пустыня Сахара*
*ні кроплі жыцця*

***

*манастыр — тэрыторыя Святага Духа*
*і ў прыезд мітрапаліта Паўла*
*і ў кожны раз*
*і асабліва сёння —*
*у дзень Святога Богаяўлення*

*ігумення шчодра палівала ўсіх*
*з сіняга коўшыка*
*вада лятала па-над галовамі*
*асядаючы на твары і плечы*
*(я так рабіла летам*
*стоячы пасярод мае вузенькай і плыткай*
*дамашняй рэчкі*
*палівала сябе з вядзерца*
*але тое было летам)*

*смотри смотри — за шиворот льёт*
*спалохана прашаптаў мужчына*
*а матушка сапраўды ліла за грудзіну*
*маладзенькіх і прыгожых*
*як майскія ландышы*
*харыстак*

*усе наталілі смагу*
*усе пранікнуліся святлом*
*усе спрычыніліся*
*да Святога прычасця*
*выкупаныя і выкупленыя Божыя дзеці*
*разыходзіліся ў зімовы дзень*

*а вечарам*
*вазьму ў рукі прасфору*
*пацалую выяву Багародзіцы*
*і з нетраў стомленай*
*і зняверанай душы*
*нечакана вырвецца прызнанне*
*я Цябе моцна-моцна люблю*
*і з вачэй пырснуць слёзы*
*як рэха іарданскай вады*
*з сіняга коўшыка*

***

*гармонія жыцця*
*еду цягніком*
*вязу з сабою дзень*
*з буйнейшым інфарктам міякарда*
*побач вязуць музыку*

***

*вячэрні горад шуміць*
*гудзе*
*мама ляжыць — замірае сэрца*

***

*пачатак сакавіка*
*дараваная нядзеля*
*цэлы дзень свеціць сонца*
*цэлы дзень ідзе вайна*

# Між будучым, мінулым і сапраўдным



Аліна ПАЎЛОЎСКАЯ

***

*Змрочная ноч прахалодаю*
*вечнасці вее.*
*Хмары панурыя вецер*
*у статак сагнаў.*
*Сонца агарак, залевай прыцішаны,*
*тлее.*
*Гэтак згасае каханне.*
*Чыя ў тым віна?*

*Спі, мая радасць, спакойна —*
*шторанак святлее.*
*Цемра памрэ ў светлым ззянні*
*наступнага дня.*
*Хустку жалобную скіне*
*сівая завея,*
*Сны пахаваўшы.*
*І ў сэрцы прачнецца вясна.*

***

*Як хораша, як горача, улетку*
*Гуляць адной у цёмнае глушы*
*І слухаць, як зрывае вецер кветкі*
*З маёй святлом апаленай душы...*

*Як горача... Да горычы балюча*
*Аднойчы выпадкова зразумець,*
*Што ты ўсяго засохлая калючка,*
*Якой ніколі болей не квітнець.*

***

*Крывавіць слова на паперу.*
*Святло змяняе ночы змрок.*
*Няўмольны час ляціць наперад,*
*Змушае нас паскорыць крок.*

*«Пастой!» — крычым яму знямогла.*
*«Пастой! — насуперак вятрам*
*Вяртае рэха голас Бога. —*
*Будуй у сэрцы вечны храм».*

**Памяці Ігара Жука**

*Яго імя не знікне, не сатрэцца,*
*Не змоўкне пад цяжарам*
*чорных пліт.*
*Няхай спыніла ход слабое сэрца —*
*Імя яго не забярэ нябыт.*
*Пакуль жывая памяць у нашчадкаў*
*І з вуснаў сыплюць пацеркі малітв, —*
*Ён будзе жыць, сачыць*
*за намі ўкрадкам.*
*Імя яго не забярэ нябыт.*

***

*Сустрэнемся на ўяўнае мяжы*
*Між будучым, мінулым*
*і сапраўдным,*
*Дзе йшчэ не позна,*
*але ўжо не рана*
*Шчаслівым быць, кахаць*
*і проста жыць.*

*Сустрэнемся — у чорна-белых снах,*
*Нібы героі даўняй кінастужкі,*
*Што ўсё жыццё шукалі сіняй птушкі,*
*Не здолеўшы ўтрымаць яе ў руках.*

*Няўмольны час заўжды ад нас бяжыць,*
*І з кожным днём яго ўзрастае хуткасць.*
*Няўжо нам засталася толькі пустка*
*Пад назваю прыгожай — настальжы?..*

# «ІСПАНСКІЯ АРФЕІ»: Лопэ дэ ВЕГА і Мігель дэ СЕРВАНТЭС

Андрэй ЦУНСКІ

Летась адзначалася 460 гадоў з дня нараджэння рэфарматара іспанскага тэатра і геніяльнага драматурга, паэта і празаіка, аўтара каля 2000 п'ес (да нашых дзён дайшла толькі чвэрць) і 3000 санэтаў Лопэ дэ Вегі (1562—1635).

Юбілей нечакана спарадзіў, сярод іншых, дзіўнае пытанне: за што калегу не любіў класік іспанскай літаратуры, аўтар рамана «Дон Кіхот» Сервантэс (1547—1616)?

Іх адносіны нельга назваць сяброўскімі, хаця на публіцы яны нават ні разу не пасварыліся. Больш за тое — кожны з іх прызнаваў майстэрства і значэнне адзін аднаго пісьмова. І на людзях. За вочы ж — пераважалі іншыя пачуцці і эмоцыі. Ды і ці магло б быць інакш? Адзін усё жыццё імкнуўся быць дабрадзейным і маральным чалавекам. Другі перыядычна імкнуўся быць такім — але не атрымлівалася. Ці атрымлівалася яшчэ горш, чым было да таго. А першы спрабаваў пісаць п'есы, і ў яго ні разу не атрымалася хаця б наблізіцца да калегі.

Першы не адмаўляўся ні на хвіліну ад сваіх перакананняў і не «адхіляўся» ад маральнага стрыжня. Ён быў супраць інквізітарскіх судзілішчаў, адважыўся пісьмова звярнуцца да караля са словамі «хопіць аўтадафэ!», — а другі запісаўся ў інквізітары і нават распараджаўся і камандаваў каля вогнішча, на якім спалілі нейкага звар'яцелага манаха.

Нарэшце — адзін памёр у галечы, а другі — у самавітым дастатку. Якое ўжо тут сяброўства?

Першы — Мігель дэ Сервантэс Сааведра. Другі — Лопэ Фелікс дэ Вега Карпіё. Карацей — Лопэ дэ Вега. Абодва — рэфарматары іспанскай і сусветнай культуры. Пасля абодвух засталіся несмяротныя старонкі. Пасля першага нельга было ўжо пісаць прозу, як да яго. Без другога не з'явіўся б сучасны тэатр. Каму аддаць перавагу ў такім маральным паядынку? Гісторыя і Час вырашаць мудрэй, прычым з вялікай іроніяй...


Мігель дэ Сервантэс


Лопэ дэ Вега

Хуан Перэс дэ Мантальбан, дыскрэт ордэна святога Францыска і натарыус інквізіцыі, быў вельмі сімпатычны Лопэ дэ Вегу і ў гісторыі застаўся як аўтар кнігі «Fama póstuma» (1636), біяграфіі Лопэ дэ Вегі, у якой ён не эканоміў на «фіміяме і ружах». Лопэ дэ Вега быў яго сябрам, магчыма, нават суаўтарам па п'есе «El Orfeo en llengua castellana» — «Арфей на іспанскай мове». Дэ Мантальбан быў адным з тых, хто ў памяць пра дэ Вегу зладзіў яго «паэтычнае пахаванне». Бацька Хуана дэ Мантальбана зваўся Алонса Перэс, і быў ён выдаўцом шматлікіх твораў дэ Вегі, габрэем, які прыняў каталіцтва. Але Хуан спрабаваў выдаць сябе за арыстакрата дэ Мантальбана, за што і патрапіў «на пяро» сатырыку Францыска дэ Кеведа. З дэ Кеведа ён ваяваў пры дапамозе памфлетаў да самай смерці. Зрэшты — не так ужо доўга давялося чакаць. У 1638 годзе Хуан Перэс дэ Мантальбан страціў розум і неўзабаве памёр. Але біяграфію Лопэ дэ Вегі напісаць паспеў.

У гэтай біяграфіі ён і паведаміў пра дзіцячыя гады свайго настаўніка і сябра, пра тое, што той пачаў пісаць вершы ў пяцігадовым узросце, але — вось жа прыкрасць — яшчэ навучаны грамаце не быў, а таму «...пакуль не навучыўся пісаць, дзяліўся сняданкамі са старэйшымі вучнямі, каб яны запісвалі тое, што дыктаваў Лопэ». Іншыя біёграфы паведамлялі, што «з ранняга дзяцінства Лопэ выяўляў выдатныя здольнасці: у пяць гадоў вольна чытаў па-іспанску і па-латыні, а ў шэсць, яшчэ не ўмеючы пісаць, складаў вершы». Каму верыць — вырашайце самі.

У адзінаццаць гадоў бацька аддаў яго ў езуіцкую школу, і там малодшы Лопэ зрабіў пераклад паэмы Клаўдыяна «Выкраданне Празерпіны» на іспанскую мову. А праз паўтара гады, у трынаццацігадовым веку, склаў першую камедыю — «Праўдзівы палюбоўнік». Яе датуюць 1574—1575 гадамі. Ужо сама назва намякае на тое, што аўтар знаёмы з падрабязнасцямі і сутнасцю «справы». І менавіта з 1575 года можна пачаць калькуляцыю работ Лопэ дэ Вегі ў лічбах. Дапаможа нам усё той жа Хуан Перэс дэ Мантальбан, паводле падлікаў якога геній іспанскай драматургіі ў суме выпусціў у свет 1800 камедый і 400 аднаактовых аўто (прадстаўленняў рэлігійнага характару з жыцця святых), і ўсё гэта ў вершах агульным лікам больш за 21 мільён радкоў! Сам Лопэ дэ Вега пісаў, што на камедыю не марнаваў больш за тры дні. Простая арыфметыка дазваляе падлічыць, што калі лічбы дакладныя, то 5400 дзён, альбо 180 месяцаў, альбо пятнаццаць гадоў з пражытых сямідзесяці двух дэ Вега пісаў драмы і камедыі, а калі дадаць сюды аднаактовыя «аўто», пакінуўшы на іх па адным дню, выйдзе, што яшчэ тры гады і тры месяцы пайшло на іх, а ёсць яшчэ чатыры раманы, мноства санэтаў, лістоў, артыкулаў...

Яго сябар Хуан дэ Пінья пацвярджаў: «Я сам быў не раз сведкам таго, як ён пісаў па васямнаццаць старонак кожныя шэсць гадзін, і так васямнаццаць гадзін запар». І наўпрост з-пад пяра драмы і камедыі патраплялі на тэатральныя падмосткі.

Такім чынам — прыкладна дваццаць гадоў свайго жыцця Лопэ дэ Вега правёў з пяром у руках, яшчэ, напрыклад, гадоў дваццаць пайшло на сон. Астатнімі трыццаццю двума ён таксама распарадзіўся «па-гаспадарску».

Мігель дэ Сервантэс Сааведра ў дваццаць тры гады пайшоў на ваенную службу, у дваццаць чатыры стаў героем бітвы пры Лепанта ў Патраскім заліве, у марскім баі прыняў амаль ва ўпор два выстралы з аркебузы — гэта вельмі страшныя раны. Пабываў у палоне, быў выкуплены амаль што паміраючым, зноў вярнуўся на службу...

Студэнт універсітэта Алькала-дэ-Энарэс Лопэ дэ Вега ў шаснаццаць гадоў здолеў пры дапамозе вершаў і кампліментаў «украсці сэрца» нейкай замужняй дамы Даратэі. Але тэмперамент у студэнта быў вельмі палкі. Даратэя была неўзабаве забытая, а ў жыцці літаратара яе месца заняла нейкая Марфіса — цалкам набожная ўдава, на бяду сваю — прыгажуня з любоўю да паэзіі. Калі паэзія непазбежна прывяла да цяжарнасці, малады Лопэ загарэўся ўзвышанай любоўю да... радзімы і кароны, і ў 1583 годзе адбыў у складзе ваеннай экспедыцыі на Азорскія астравы (архіпелаг у Атлантычным акіяне).

Яго вершы таго часу заўважыў і пахваліў сам Сервантэс!

Вярнуўшыся, дэ Вега зразумеў, што сціплы заробак служачага не забяспечыць яму ні добрай вопраткі, ні годнага жылля, а галоўнае... жаночай ласкі. Ён зноў піша — цяпер ужо камедыі. Доўга пісаць не стае часу... Вытанчаны палюбоўнік і паэт патрапляе ў яшчэ больш дасканалыя кіпцюры — да новай каханай. Яна не толькі прыгажуня. Зваць яе Алена Асорыя, і яна — актрыса! І не якая-небудзь, а лепшая ў Мадрыдзе, і бацька яе сам Хераніма Веласкес — акцёр, антрэпрэнёр, пастаноўшчык. Лопэ становіцца заўважнай фігурай у іспанскім тэатры — і гэта ў яго залаты час!

Але мінае крыху часу, і небарака высвятляе, што прыгажуня (не кажучы аб тым, што яна наогул замужам) не проста завяла акрамя яго іншага палюбоўніка, дык яшчэ і збіраецца наогул да яго і сысці. Дзіва што — дон Франсіска дэ Гранвель не толькі багаты і шляхетны. Ён сваяк самога Антуана Перэна дэ Гранвеля, першага міністра і бліжэйшага дарадцы караля.

Лопэ раз'юшаны. Ён зразумеў, навошта гэтая інтрыгантка старалася трымаць яго каля сябе: дзеля вельмі папулярных у публікі п'ес, якія заказаны дурань пісаў за тры дні штуку! І неўзабаве ўвесь Мадрыд рагатаў з памфлетаў на актрысу, на яе мужа, на бацьку і на палюбоўніка-арыстакрата. Каралеўскі міністр наўрад ці быў задаволены такім скандалам.

Новы 1588 год Лопэ дэ Вега сустрэў у турэмнай камеры. Яму прад'явілі суровае абвінавачанне — у абразе двараніна. А за гэта маглі выгнаць з Мадрыда на цэлы год. Не паспеў суд абвясціць прысуд — два гады выгнання з Кастыльі і чатыры гады выгнання са сталіцы, а дэ Вега зноў выдаў у адрас дэ Гранвеля з'едлівую абразу. І быў новы суд, і прыгавор: восем гадоў выгнання са сталіцы. Калі не паслухаецца — смерць.

Дэ Вега... нікуды не паехаў. Ён паспеў закруціць раман з дачкой кіраўніка старажытнага роду Ісабель дэ Урбіна. Разам са сваім братам ён падаўся ў Лісабон, адкуль выйшаў у мора на борце галеона «Сан Хуан», дзе склаў паэму «Прыгажосць Анхелікі». Ужо Анхелікі!

Лопэ дэ Вега браў удзел у паходзе Непераможнай Армады, вярнуўся, на шчасце, жывы і нейкі аціхлы. Ягонаму брату так не пашанцавала — ён загінуў і здабыў супакой у марскіх хвалях.

Пасля катастрофы Армады Лопэ ўз'яднаўся з Ісабель, яны з'ехалі ў Валенсію, дзе сталі жыць у Леванце. Ён піша п'есы з той жа хуткасцю — і яны карыстаюцца папулярнасцю. Тры гады Лопэ быў амаль шчаслівы. Тым больш што акрамя жонкі ў яго ёсць... яшчэ і Філіда. Жонцы ён яе прадставіў у якасці сваёй вучаніцы. Але ў 1893 годзе Ісабель не стала, а дзве іх дачкі памерлі ў маленстве.

Колькі ўсяго і ўсякага здарыцца з ім за астатнія гады — апісаць цяжка. Перыяды бурных раманаў будуць змяняцца доўгімі гадамі раскаяння і аскезай, нават манаствам.

У Мадрыдзе Лопэ дэ Вега знаёміцца з Сервантэсам. Адносіны знешне ідэальныя, але ўпотай ён Сервантэса пабойваецца, а той яго лічыць выскачкам і кепскім драматургам, які парушае ўсе законы драмы, патурае нізінным інстынктам публікі і псуе іспанскі тэатр. А не рэфармуе...

З часоў Старажытнай Грэцыі тэатральнае прадстаўленне будавалася па непарушным каноне. Дзеянне адбывалася «тут» і «цяпер». Ніякіх там «мінула тры гады» ці паказальніка новага месца, скажам, «Венецыя», а потым «Верона». Не так, як у Лопэ дэ Вегі...

П'есы дэ Вегі ставіліся звычайна ў заезных дварах, будынках з унутраным дворыкам, дзе вокны ператвараліся ў ложы, а зала дзялілася на дзве паловы — каб мужчыны не маглі апынуцца побач з жанчынамі. Тэатр іспанскай вуліцы стварыў свае падыходы да кампазіцыі: п'еса дзялілася на тры дзеянні, усё, што адбывалася за гэтае дзеянне, было адным сцэнічным днём, або харнадай. А паміж харнадамі падчас п'есы маглі мінуць і гады. Паміж харнадамі выконвалі сайнэты — маленькія п'ескі з куплетамі і музыкай.

Сервантэс на ўсё тое ўздыхаў: «Лопэ нельга пераймаць. Знікне ён, знікнуць і яго тварэнні».

У 1609 годзе, заўдавеўшы зноў, Лопэ дэ Вега вырашыў, што гэта пакаранне за яго шматгрэшнае жыццё, і звярнуўся да надзейнага сродку: рэлігіі. Ён пачаў маліцца, пасціцца і паступіў на службу ў інквізіцыю. Быў пасвечаны ў святары і выправіўся ў Таледа, каб застацца там служыць Госпаду і жыць праведным жыццём пастыра... у доме актрысы Геранімы дэ Бургас. Праз некалькі месяцаў «святы айцец» быў вымушаны бегчы з Таледа...

Час і гісторыя падзялілі і злучылі лёсы-лаўры Сервантэса і Лопэ дэ Вегі. І вось як. Уявіце, што нейкім цудам нам удалося выклікаць да жыцця абодвух. Яны паблукалі па сучасным Мадрыдзе, даведаліся, што было пасля іх сыходу і да нашых дзён. І вось дэ Вега з сумнай усмешкай кажа Сервантэсу:

— Ты ўяўляеш, аказваецца, я больш за дваццаць гадоў пражыў на вуліцы, якая цяпер называецца вуліцай Сервантэса. Хто б мог падумаць?

Сервантэс жа з горыччу мог бы адказаць:

— А мяне пахавалі на могілках манастыра Сан-Ільдэфонса-і-Сан-Хуан-дэ-Мата ордэна Басаногіх Трынітарыяў... І адрас могілак — вуліца Лопэ дэ Вегі! І я там ляжу да гэтага часу.

# «Дробязі жыцця»

Генрых ДАЛІДОВІЧ

...Спачатку пра невясёлае. Працягваецца выкід з дамашніх бібліятэк літаратуры. З канца таго стагоддзя пачалі пазбаўляцца ад выданняў ідэалагічнага характару, розных брашур з пэўнымі рэкамендацыямі, пазней — ад падшывак газет і кіпаў усякіх часопісаў. І вось які ўжо час у дваровых кантэйнерах пабачыш і слоўнікі, разнастайныя салідныя даследаванні па навуцы і культуры, асобныя энцыклапедычныя даведнікі, як невялікія кніжачкі, так і аб'ёмістыя аднатомнікі выбранага мастацкай літаратуры. Не толькі беларускай, але і рускай ды замежнай класікі. Лаўрэатаў... Нобелеўскай прэміі. Мусіць, маладое пакаленне, азіраючы бацькоўска-дзедаўскія кніжныя набыткі, лічыць: цяпер, у росквіт Інтэрнэту з яго шматлікімі магчымасцямі, можна абысціся без духоўных каштоўнасцяў сродкамі друкаванага слова. Крыўдны парадокс: старэйшае пакаленне многае з іх здабывала, падоўгу стоячы ў чарзе, па блаце, за макулатуру, а цяпер тыя набыткі самі сталі... апошняй.

Вось затрымаў у руках яшчэ свежую на выгляд своеасаблівую анталогію «Мелочи жизни. Русская сатира и юмор второй половины XIX — начала XX в.», выдадзеную ў 1988-м у маскоўскім выдавецтве «Художественная литература» ў серыі «Классики и современники». Са школы помніцца руская літаратура такога жанру і І-ай паловы XIX ст.: майстра пабытавай і мудрагелістай байкі Крылоў, час ад часу вастраслоўны, іранічны, ці дзёрзкі эпіграміст Пушкін, суровы і з рэзкім насмехам, з ужыткам мудрых прымавак Грыбаедаў, незвычайны спалучальнік украінскага каларытнага фальклору з містыкай ды з тонкім досціпам, забаўляльнасцю, а таксама з заглыбленнем смешнага ў фарс ці камізм, нават у драматызм Гогаль і інш. Яны здолелі ў змрочную эпоху жорсткай, хваравіта насалоджвальнай помсты Мікалая І расійскай эліце за дзекабрысцкае паўстанне, за нежаданне многіх прызнаць яго імператарам, ужыць гарэзнасць, а часам і смелы, зласнаваты грамадзянскі высмех выбудаванай ваенна-паліцэйскай сістэмы, што і жалезнай дысцыплінай спараджала не толькі разумных, працавітых, сціплых і сумленных, але і такіх зусім не адзіночных ды бяскрыўдных тыпаў, як грыбаедаўскія рэтраград-двудушнік Фамусаў, цемрашал Скалазуб, пушкінскі самадур Траекураў, гогалеўскі вялікі атрад: з аднаго боку, дзяржыморда гарадніччы і аферыст Хлестакоў, шэльма-круцель Наздроў, дзялок-прайдоха Чычыкаў, з іншага — прастадушныя і смешнаватыя старасвецкасцю сельскія памешчыкі, два прыстаўаныя да заземленага побыту і нечакана пасвараныя з-за глупства суседы-сябры Іваны, бясплодны летуценнік Манілаў, пакорлівы васал свайго неўтаймоўнага апетыту і праўдарублівы да ўсіх Сабакевіч, зацюканы ладам, жорсткімі людзьмі «маленькі чалавек» Акакі Акакіевіч...

Пасля адыходу дэспатычнага Мікалая І з сярэдзіны 1850-х замардаванае грамадства чакала хоць нейкага права на сваё слова, прамысловых, земскіх, судовых і іншых рэформ, адмены рабскага прыгону, але паражэнне ў Крымскай вайне, зацягнутасць Каўказскай па каланізацыі Чачні і Дагестана, аслабленне імперскага духу ўсёперамоўнасці, нарастанне дэмакратызму, нават рэвалюцыйнасці ў разначынцаў стрымлівалі новага валадара ад пашыранага лібералізму, не кажучы ўжо пра хоць нейкае нацыянальнае паслабленне для скораных нацменшасцяў. Наадварот, апошняе неміласэрна душылася, як у час антыцарскага паўстання ў Польшы, Літве і Беларусі 1863 — 64-ых гадоў (праўда, была і пэўная розніца: калі задушэнне паўстання 1830 — 31-ых узахлёб вітала праімперска настроеная расійская грамадскасць, а з ёй і самыя вядомыя пісьменнікі таго часу, хто спачатку ўслаўляў вольнасць, а затым, пасля расправы з дзекабрыстамі, перайшоў на самадзяржаўныя пазіцыі, то другому паўстанню аказалі маральную падтрымку асобныя рускія рэвалюцыянеры, пісьменнікі, публіцысты рэвалюцыйнага характару Герцан, Агароў і інш., а некаторыя навамысныя рускія афіцэры са зброяй далучыліся да ваенных паўстанскіх атрадаў як праціўнікі царызму. Яны ўхваленне панегерыкам Мураўёва-вешацеля дэмакратычным Някрасавым успрынялі як ганебны адыход ад сваіх прынцыпаў).

Рэвалюцыянеры, тыя ж народавольцы (у ліку іх і наш зямляк Грынявіцкі) у тых умовах дзеля новай Расіі рашуча выбралі гвалтоўны шлях тэрору супраць рэакцыйнай манархіі ды яе галоўнага носьбіта. Як справядліва пісалася ў савецкі час, перадавая руская літаратура (сярод яе і аўтары гумарыстычна-сатырычнага цэху) па-свойму, сілай мастацкага слова выкрывала шматлікія заганы самадзяржаўнай сістэмы, што за апошнія больш чым стагоддзе ў большасці ўстаноўлівалася не столькі патрэбай эвалюцыйнага развіцця, колькі пераваротамі і ўмацаваннем манархічнага абсалютызму і няўхільна вяла Расійскага гіганта да адсталасці. Засвоіўшы прынцыпы т. зв. Натуральнай школы, Салтыкоў-Шчадрын больш за іншых ужыў такую грозную зброю, як алегорыя, шарж, гратэск і сарказм, супраць пашыранай у дваранскім і памешчыцкім асяроддзі крайне абывацельскай, дэградацыйнай з'явы, якую паводле яго рамана «Пашахонская даўніна» назавуць «пашахоніяй». Дасталося і чыноўніцкаму ідыятызму, палітычнаму прыстасавальніцтву, падхалімам, новаму класу буржуазіі. Часам гіпербалізм значна пераўзыходзіў звычайную эзопаву мову, нацягваў з'едлівасць, як тую струну, да звону, але не даводзіў да чалавечага счэрнівання: зусім іншае змаганне за здаровасць было ў пісьменніка на мэце. Творчасць трох аўтараў пад псеўданімам Казьма Пруткова спачатку ўспрыймалася як ляпсусы ахвотнага да тваранiны прастака, у якога сярод бязглуздасці прамільгваюць і яркія выслоўі, але паступова пачало выяўляцца і інакшае: увасабленне шарачка, які ў асноўным сваімі перламі выяўляе разумовы застой, самаўпэўнена пасягае на мудрасць і на ісціну. Як, скажам, у парадыйным творы «Проект: о введении единомыслия в России», дзе, па яго выразе, шчыра падтрымліваецца тое, што патрабавалася афіцыйнай ідэалогіяй: «несомненное выражение усердного желания преданного человека: принести услугу столь высоко уважаемой им благонамеренности». Аднаму са складных «траістага» аўтара, графу А. К. Талстому, было цесна ў калектыўнай повязцы, таму ён вызначыўся і асобнай творчасцю. Асабліва гістарычнымі творамі: раманам «Князь Серебряный», п'есамі, вершамі-песнямі, а заадно і рэалізацыяй уласнага ўмення пакпіць з пэўных, у тым ліку і дзяржаўных хібаў (іх ведаў: службнічаў і пры найвышэйшым двары). Ён як грамадзянін падзяляў тагачасныя славянафільскія погляды, але не ўспрымаў некаторыя з іх з-за перахвальвання выключнасці расійскага дзяржаўнага шляху, імперскіх амбіцый ды фанабэрыі (тады, з сярэдзіны XIX ст., славянафілы асабліва прапаведавалі канцэпцыю шкоднасці «еўрапізацыі» і правільнасці асноў расійскага грамадскага жыцця, аб'яднання ўсіх славян у духу праваслаўя і пад сцягам рускай манархіі). Гэты няпросты граф (крытык царскай бюракратыі) ахаладжваў такія дактрыны, што перараслі ў рэакцыйны імперскі нацыяналізм і не знаходзілі разумення ў некаторых творцаў, дзеячаў заходніх, паўднёвых славян і найперш успрымаліся як экспансіянісцкія. У прыватнасці, Талстой выразна пахіхікаў з-за славянафільскіх замілаванняў у змешчанай у анталогіі паэме «История государства Российского от Гостамысла до Тимашева» (Гостамысл — легендны правіцель Ноўгарада IX ст., Цімашаў — пры жыцці аўтара міністр унутраных спраў, прыхільнік навядзення парадку ў Расійскай імперыі жорсткім насіллем. — *Г. Д.*). На самым пачатку вершаванай гісторыі — напамін выказвання першага ўсходнеславянскага летапісца Нестара: «Вся земля наша велика и обильна, а наряда в ней нет». Далей — жартоўны пераказ дзеяў і вынікаў уладароў ад запрошанага абладзіць Русь Рурыка. Многія з іх у велізарныя разы пабольшвалі заваёвы новых плодных зямель, але нават і Грозны рэпрэсіямі, Пётр І, лупцуючы дубінай казнакрадаў, Кацярына ІІ некаторым лібералізмам і рэформамі не апарадкавалі тое багацце, што яны набылі гвалтам. Як пазней і Аляксандр І, які ўславіўся і яшчэ болей услявіў Расійскую імперыю перамогай над Напалеонам, набыў вялікую моц амаль над усёй мацерыковай Еўропай:

*Пры ім ярка і страката*
*Расіі цвет расцвіў.*
*Зямлі было багата,*
*А парадкам не здзівіў.*

Мікалая І і яго сына Аляксандра ІІ аўтар не ўпамянуў:

*Хадзіць бывае слізка*
*Па каменьчыках ўпарта,*
*То пра тое, што блізка,*
*Гаварыць не варта...*

Ды пацешліва:

*На суцяшэнне наша*
*Нам, акі той прамень*
*Свой лік яві Цімашаў...*

Тут не выпадкова ўжыты стараславянізмы. Яны перагукаюцца з летапіснымі, дый слова «суцяшэнне» таксама не без колкага падтэксту. І па палеміцы наконт поспехаў расійскай тысячагадовай самабытнасці, і калегам-славянафілам пстрычка: перш чым ашчаслівіць сабой іншыя народы, спачатку трэба як след упарадкаваць свой. І не толькі паліцэйскімі метадамі вернападданых, але ў многім абмежаваных службістаў. Хоць аўтар паэмы пра спрэчнае сучаснае не дагаварыў, ды ўсёроўна пры ім і пры жыцці Аляксандра ІІ твор не быў надрукаваны. Устрымаўся ж напісаць, што вось цяпер мудры і вялікі цар нарэшце навёў лад, і жыццё ўсіх стала ледзь не раем. А маўчанне бывае не толькі згодай...

Бясспрэчна, непарыўна звязаныя апошнія дзесяцігоддзі XIX, пачатак XX стагоддзяў з імем і Чэхава. Напачатку найперш з яго кароткімі (патрабаванне рэдакцый) і спрасаванымі думкай і пэўным літаратурным прыёмам (талент) гумарэскамі, а то і мініяцюрамі. Як і Салтыкоў-Шчадрын, ён ад дасціпнага пасміхоўцы з некаторых пацешліва-забаўных чалавечых рыс і ўчынкаў вырас у буйнага мэтра прозы, пры гэтым дасканала асэнсаваў, ярка адлюстраваў у ёй непазбежную рэч: калі ў жыцці, творчасці перавага любові да хараства прыроды, павага да пэўных чалавечых якасцяў і стрымане, жартаўлівае стаўленне да асобных людскіх слабасцяў, то выходзіць дабрадушна-вясёлая, гумарыстычная творчасць, а калі захліставае суровая праўда рэчаіснасці і прыгнятаюць такія запатрабаваныя рэжымам тыпы, як унтэр Прышыбееў, калі засілле прыстасаванцаў і падхалімаў, пакуты нядрэнных, толькі бяспраўных ды самаўніжаных сучаснікаў, то вось такая трагедызацыя вымагае іншага. І пры гэтым нялюбай здаўна праўдзе не паспрыяе нейкі гумарок, тут бывае да месца сатыра, што аблегчвае перацяжар маркотнага ўражання, што, скажам, здаралася ў крайне праўдзівага Гіляроўскага. Салтыкоў-Шчадрын і Чэхаў умелі знайсці меру і межы вышэйназванага, стварыць такую сатырычную літаратуру, што не толькі апісвала, але і выразна вызначала дыягностыку грамадскіх захворванняў, выносіла напаверхню такіх каларытных герояў, што іхнія імёны, як у Фанвізіна, Грыбаедава і Гогаля, Ганчарова (Абломаў) адразу ж траплялі ў галерэю намінальных.

У названай анталогіі сярод карыфееў знайшлося месца і многім менш вядомым творцам гэтага жанру. Таксама лёгкавясёлага ці смехастрэльнага, эпіграмна-парадыйнага, выкрывальнага. У зборніку (больш 400 старонак) 23 персаналіі тых, хто тады падтрымліваў высокі грамадзянскі і мастацкі ўзровень свайго цэху ў рускай літаратуры. Напрыклад, у XX стагоддзі Тэфі і Аверчанка з гумарэскамі, у паэзіі — Саша Чорны.

То я не вярнуў у кантэйнер гэтае выбранае, з увагай азнаёміўся з ім і нават тое-сёе з менш вядомага ды не канулага ў Лету рашыў перакласці па-беларуску.

Не без таго, ёсць у гэтым выбраным і, як здаўна казалі, «усякая ўсячына». Пра натуральныя прыватнасці жыцця. Хоць бы вось у байцы названага ўжо Казьмы Пруткова:

*Пападдзі вусень зашыўся балазе.*
*«Дастань», — загадвае яна слузе.*
*Узяўся малоййца яе распранаць.*
*«Што сабе дазваляеш?» — «Каб злыдня дастаць».*

*Калі вусень зашыўся балазе,*
*Лаві сама і не давай слузе.*

Ёсць і пра асобнасці, што суправаджалі тагачасны літаратурны працэс: паэтычныя і празаічныя эпіграмы на новыя творы, пароды на пэўную непрывабную пазіцыю і выкрунтасы

Заканчэнне на стар. 11 »

# «Дробязі жыцця»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 10

творчасці калег (пра сімвалістаў), на перасалоджаную жаночую паэзію, водгукі на паўпрыватныя моманты (пра замены не на лепшае рэдактараў газет і часопісаў), аднак складальнік выбранага і аўтар бліскучай прадмовы найбольш выбраў творы з дробязямі жыцця ў вызначэнні Салтыкова-Шчадрына і нагадаў погляд Максіма Горкага пра таго: «Яго адсутнасць пастаянна адчувалася і пастаянна палохала яго прысутнасць. Ён сучасны ўсім часам… Яго не хапае рускай літаратуры». Тэксты анталогіі і пачынаюцца ўрыўкам з салтыкова-шчадрынскай кнігі сатырычных нарысаў «Дробязі жыцця» (1886—1887):

*«…Ах, гэтыя дробязі! — усклікаў пісьменнік. — Няма часу для здаровай думкі, няма вольнай хвіліны для плённай працы!.. Запаланілі ўсё жыццё… Возьмем… такі прыклад: адукацыю. Не пра вышэйшую культуру пагаворым, а толькі пра школу. Школа рыхтуе чалавека да ўспрымання ведаў; яна дае асноўныя элементы іх. Гэта ўдосталь паказвае, якая цесная повязь існуе паміж школай і ведамі.*

*Вядома і нават за аксіёму ўсе лічаць, што веды асвячаюць не толькі таго, хто непасрэдна іх набывае, але, праз школу, распаўсюджваюць яркі промень і на цёмны людскі натоўп. Вядома таксама, што людзі адорваюцца ад прыроды рознымі здольнасцямі і рознай мерай успрымальнасці; што калі амаль нельга ўявіць гэтую апошнюю ісціну ва ўсім яе аб'ёме, то, ва ўсякім разе, недаравальна не прымаць яе да развагі. Нарэшце, як прызнаюць усе, гвалтоўна звужваць межы ведаў шкодна, а яшчэ шкодней напаўняць змест іх ўсялякімі выпадковымі дамешкамі.*

*Паглядзім жа, у якой меры прымяняюцца гэтыя ісціны ў школьнай справе.*

*Найперш, над усёй школай навісае нівеліроўнае цыркулярнае ўказанне. Вызначаюцца ва ўсёй падрабязнасці не толькі межы і змест ведаў, але і лік гадавых гадзін, адведзеных кожнаму прадмету. Не імкненне да пашырэння ведаў вылучаецца на першы план, а глухая асцярога гэтага пашырэння. Характарыстычныя асаблівасці навучэнцаў зусім не ўлічваюцца: яны бачацца па адной мерцы, для ўсіх мяркуецца адзін і той жа кругагляд. Пераводны або непераводны бал — вось адзіны крытэрый для ацэнкі, пры тым не ўлічваецца, наколькі ў гэтым бале можа быць выпадковасць. Пра асобу педагога таксама няма ўвагі. Ён не можа ні запыніцца на пяць хвілін на такім эпізодзе ведаў, які прызнае важным, ні пасвяціць пяць хвілін меней такому эпізоду, які ўяўляецца яму не зусім важным ці заўчасным. Ён абавязаны спаўняць тое, што запісана ў цыркуляры…*

*Што можа даць такая школа?».*

Салтыкоў-Шчадрын не адзін год быў віцэ-губернатарам, то нагледзеўся дробязяў жыцця ў чыноўніцкім асяроддзі. То заўважае: пэўны чалавек атрымаў веды ў школе, пасля пашырыў іх, па натуры шчыры і сумленны, займае першую прыступку службовай лесвіцы да ўлады і ўшанот ды… узыходзіць уверх яго не пускаюць як «не свайго поля ягаду». Ён запрагаецца ў плуг, шчыруе — дарма, поспеху не дабіваецца. Паступова ягоны розум падказвае іншы шлях: як піша нарысіст, «ідэалы свабоды, душэўныя парывы, — усё адхінаецца, усё прыносіцца ў ахвяру рабству. А неўзабаве ў выніку новаспечаны спраўны раб, у каго ўсё згніло, апроч гнуткай спіны і хлуслівага языка ў роце». Альбо вось яшчэ: Салтыкоў-Шчадрын сталеў як грамадзянін і пісьменнік у перыяд, калі царская Расія вяла Каўказскую і Крымскую, Турэцкую войны, заваёўвала казахскую і сярэднеазіяцкія землі. Пераважная большасць грамадскасці ўхваляла акт «доброй войны», «приобретения», а вось Салтыкоў-Шчадрын у гэтай патрыятычнай эйфарыі бачыў і многія беды: *«Вайну клянуць; збіраюць мітынгі, пішуць трактаты пра прадухіленне зачэпак для яе або пра замену яе іншым чынам, менш бесчалавечным, і забываюць, што прэлімінарыі (пярэдадзень. — Г. Д.) вайны больш пакутлівыя, чым сама вайна. Вайна абуджае самыя паганыя нормы (падрадныя і казнакрады ўжо чаго вартыя!); яна змучвае краіну матэрыяльна; прэлімінарыі да вайны ўтвараюць у краіне разумовае і маральнае разбэшчанне, апускаюць краіну ў цемень нікчэмнасці. Усё нездаровае, няправеднае і антымаральнае наспявае пад уплывам смуты, што змушае грамадства кідацца з краю ў край без накіравальнай мэты, без усякага ўсведамлення сутнасці гэтай мітуслівасці.*

*Грамадства, якое не ведае іншага ўтрымання, апроч плётак і насільна ўтвораных путаў, здольнае толькі для марнення»…*



Уладзімір САЛАЎЁЎ
(1853—1900)

### Эпіграма

*Не адзіны*
*І сумны анекдот!*
*Якія псіны*
*Пастушаць народ!*

***

*Ужо юнакі, дурэючы,*
*кідаюць д'яблу кніжкі,*
*У гарадавога прафесар шукае дабра.*
*Пад бізуном земскага ярыжкі*
*Халоп падзячліва крычыць: ура!*

*(Ярыжка — ніжэйшы паліцэйскі чын.)*



Леанід ТРЭФАЛЕЎ
(1839—1905)

### Праўдзейны тайны саветнік Канстанцін Пятровіч Пабеданосцаў

*Хто такі Пабеданосцаў? —*
*Для папоў — Абеданосцаў,*
*Для народа — Беданосцаў,*
*Для нутра — Ежаносцаў…*
*Для цара — ён злы Даносцаў…*
*Ён да цара — з дакладам,*
*Ад цара — з акладам,*
*Нават з важкім кладам.*
<…>
*Жыццё ў Расіі усё зáдам,*
*У ёй нельга жыць дружна, ладам,*
*Са свабодай, цудным кладам:*

*У ёйураднікі — з акладам,*
*Спраўнікі — з дакладам…*
*…Безліч у ёй «даносцаў»,*
*Канстанцін Пабеданосцаў…*

*(Пабеданосцаў — пры Аляксандры III обер-пракурор Сінода, крайні рэакцыянер нацыяналістычнага характару, уплывовец на ўнутраную афіцыйную палітыку.)*



Дзмітрый МІНАЕЎ
(1835—1889)

### У цэнзарскім кабінеце

*Тут над творамі ўчыняюць*
*Удвая загублівы абрад:*
*Як праваслаўных — вераспавядаюць*
*І, як яўрэяў, — абразаюць.*

## МАТЫВЫ РУСКІХ ПАЭТАЎ (Урыўкі)

### Матывы змрочна-выкрывальныя

*Свет — гэта шайка марадзёраў,*
*Куды не ступі, то хлус, то таць.*
*Мне аднаму даўся нораў,*
*Каб свалату выкрываць.*

### Матывы слёзна-грамадзянскія

*Мне шкада цябе, бедная сям'я!*
*Цяжкі ваш лёс да самай скрынкі.*
*Не дам вам і скарынкі.*
*Але плакаць, аплакваць буду я.*

### Матывы жудасна-маскоўскія

*Герояў на Русі багата,*
*Нібы адлітая яна*
*З граніту і булата*
*І не баіцца супастата,*
*Хоць бывае і адна.*

*Не закіне недруга карцечай,*
*Штыкамі не пужне,*
*Але адкіне перад сечаю суровай*
*Адмысловай рускай мовай*
*Ды яшчэ й солі сыпане.*

*Славянскай мовай сакавітай,*
*Моцнай, чэпкай так і сяк,*
*Разгульнай, грозна апавітай,*
*Ад гарэліцы падпітай*
*І ўдарнай, як кулак.*

### Кароль і блазан

<…>
*Кароль злуе: «Штодзень напасці!*
*Ад зла няма збавення.*
*Паўсюль паборы,*
*падлізна-подкупныя жарсці,*
*Ні ў кога праўды і сумлення…*
*Падпалы, забойствы, распуста,*
*крадзяжы,*
*Юда сядзіць на Юдзе…».*
*Кароль да блазна: «О, скажы:*
*Куды дзеліся сумленныя людзі?».*

*І блазна хіхікае: «Ах ты, цудадзей!*
*Зачысціўшы край у сваю змогу,*
*Ты зняволіў усіх чэсных людзей,*
*А цяпер сам аб'яўляеш трывогу!»*



Уладзімір ЛІХАЧОЎ
(1849—1910)

### Паэзія і проза

*Грыміць, грыміць засоў,*
*Другі і трэці:*
*Хутчэй на волю зноў*
*З ненавіснай клеці!*
*Прэч, ахова цемнаты!*
*Ты сонца засціш…*
*Вызваленым з пеклаты*
*Вароты насцеж!*

*Але жыццё не дае забыць*
*Нявольніцкае клеці,*
*І ўжо засоў грыміць,*
*Другі і трэці…*
*Мара, ты — свабоды цень!*
*Ты праўду засціш:*
*І за драбніцу ноч і дзень*
*У турму вароты насцеж.*



Васілій КУРАЧКІН
(1831—1875)

***

*Эпоха галоснасці настала,*
*Ва ўсім прагрэс — ды паміж тым*
*Выйграе, хто разважае мала,*
*І хто не думае зусім.*



Аркадзій БУХАЎ
(1889—1937;
пасмяротна рэабілітаваны)

***

*Без ніякае правіны*
*Заплачаш над сабой:*
*Адзіныя навіны —*
*Парад і мардабой.*

***Пераклаў з рускай***
***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

***P.S.*** Хіба не меў я рацыю, калі не даў загінуць хоць адной кніжцы з названага выдання, дзе выдатныя рускія пісьменнікі другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзяў сродкамі гумару і сатыры выразна адлюстравалі пэўныя адмоўныя з'явы свайго часу і праявілі дальнабачнасць, чым зусім не страцілі запатрабаванасць?..

***Люты — лістапад 2022 г.***

# Марыё Варгас Льёса — член Французскай акадэміі

У Францыі на аднаго «несмяротнага», як там называюць членаў Французскай акадэміі, стала больш. Ім быў абраны перуанска-іспанскі пісьменнік Марыё Варгас Льёса, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2010 года.

Тое, што ў найпрэстыжную ўстанову, створаную без малога 400 гадоў назад кардыналам Рышэлье, прынялі літаратара, які ніколі не пісаў на французскай мове, а толькі на іспанскай, ужо падзея выключная. Максімальная колькасць членаў Акадэміі, абраных шляхам кааптацыі, складае 40 чалавек.



Больш за тое, у Французскай акадэміі, якую ўзначальвае Элен Карэр д'Анкос, «парушылі» яшчэ адно правіла: на момант абрання кандыдату ў «несмяротныя» не павінна быць больш за 75 гадоў, а Варгасу Льёсу ўжо 86.

Атрымаўшы абсалютную большасць галасоў, Варгасу Льёсу было дадзена права заняць крэсла пад нумарам 18, якое раней належала французскаму філосафу і педагогу Мішэлю Сэру, які памёр у 2019 годзе. Так што падчас урачыстай цырымоніі ў сценах Французскага інстытута іспанска-перуанскі пісьменнік па традыцыі прамовіў словы ў гонар свайго папярэдніка. І з'явіўся на ініцыяцыю ва ўніформе «несмяротных» — зялёным камзоле, расшытым залатой ніткай. Пры ім таксама была шпага, вырабленая па яго арыгінальным эскізе. Яе пісьменніку ўручылі напярэдадні ў парыжскім выдавецтве "Gallimard", дзе друкаваліся практычна ўсе творы Варгаса Льёсы ў перакладзе на французскую.

Падчас выступу пісьменнік аддаў належнае французскай літаратуры і раскрытыкаваў Расію Уладзіміра Пуціна, згадаўшы супраціўленне ўкраінскага народа.

Пісьменнік запрасіў на вечарыну былога скандальнага караля Іспаніі Хуана Карласа. Былы манарх з 2020 года жыве ў выгнанні ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Яго папулярнасць у краіне ўпала пасля шэрагу скандалаў, у тым ліку выкрыццяў аб яго раскошным ладзе жыцця і паляванні на сланоў у Батсване.

Затым пісьменніка і былога іспанскага манарха запрасіў на вячэру прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон.

# Зноў пра смерць Пабла Няру́ды




Ён нарадзіўся ў Чылі і папачатку быў зусім не Нярудам, а Рыкардам Нафталі Рэесам. Няруда — псеўданім, які паэт у юнацтве запазычыў у чэшскага паэта Яна Няруды.

Найвялікшы пясняр Лацінскай Амерыкі, дыпламат, левы інтэлектуал, сімвал «усяго добрага», «бясконцы чалавек», паэт-антыфашыст, паэт-камуніст і адначасова — чалавек немалых фінансавых магчымасцяў…

У 1971 годзе ён атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры за зборнік «Усеагульная песня» — паэтычную энцыклапедыю Лацінскай Амерыкі.

Памёр ён неўзабаве пасля вайсковага перавароту і прыходу да ўлады Піначэта. Апошняя акалічнасць спарадзіла ўстойлівыя чуткі аб тым, што паэт быў атручаны прыхільнікамі рэжыму.

Новыя даследаванні абверглі афіцыйную версію смерці лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Генетыкі і судова-медыцынскія эксперты з Універсітэта Макмайстра ў Канадзе і Капенгагенскага ўніверсітэта прадставілі вынікі шматгадовых даследаванняў абставін смерці чылійскага паэта і грамадскага дзеяча.

Паводле афіцыйнай версіі, Няруда памёр ад раку прастаты і недаядання 23 верасня 1973 года, усяго праз 12 дзён пасля ваеннага перавароту, які скінуў дэмакратычна абраны сацыялістычны ўрад ягонага сябра прэзідэнта Сальвадора Альендэ. Па адной з версій, ён быў забіты па загадзе Аўгуста Піначэта ін'екцыяй невядомай атруты. Пасля таго, як былы шафёр Няруды Мануэль Арая паведаміў, што перад смерцю ўсхваляваны паэт тэлефанаваў яму са шпіталя Сант'яга, дзе яго лячылі, і сказаў, што яму зрабілі ўкол у страўнік падчас сну (а праз некалькі гадзін пасля гэтага сканаў), чылійскі суд пастанавіў правесці эксгумацыю астанкаў Няруды. Узоры астанкаў паэта былі адпраўленыя ў судова-медыцынскія лабараторыі чатырох краін свету для аналізу, а ў 2015 годзе ўрад Чылі заявіў, што «вельмі верагодна, што трэці бок» нясе адказнасць за смерць Няруды.

Праз два гады група міжнародных навукоўцаў вызначыла, што паэт дакладна памёр не ад раку прастаты.

Далейшы аналіз паказаў, што ў зубе, вынятым для пасмяротнага даследавання, быў батулатаксін, адна з самых смяротных атрут у свеце. Па рашэнні суда адмысловыя працягвалі працу на працягу апошніх чатырох гадоў, каб пацвердзіць, ці прысутнічаў Clostridium botulinum у астанках Няруды ў момант яго смерці. Даследаванні паказалі, што таксін сапраўды прысутнічаў у целе Няруды, калі ён памёр, што дазваляе выказаць здагадку: ён быў атручаны пасля дзяржперавароту.

Аднак неабходны далейшыя даследаванні. Пакуль сказаць адназначна, што менавіта гэтая біялагічная атрута забіла паэта і што яна была ўведзена ў цела наўмысна, нельга. Канчатковае рашэнне прыме суд.

# Кніжнае задавальненне

Навукоўцы вымералі ў… грашах задавальненне ад наведвання бібліятэк. Задавальненне ад іх частага наведвання роўнае задавальненню ад падвышэння заробатнай платы. Пра гэта гаворыцца ў даследаванні, праведзеным па замове Міністэрства па справах культуры, СМІ і спорта Вялікабрытаніі.

Як падлічылі навукоўцы, частае наведванне бібліятэк дае брытанцам такое ж задавальненне, як калі б ім павялічылі заробатную плату на 1359 фунтаў стэрлінгаў у год (ці 113 у месяц). Крыху менш задавальнення «прыносяць» заняткі спортам: на ўзроўні падвышэння зарплаты на 1127 фунтаў у год, у той час як заняткі мастацтвам — 1084 фунтаў у год.

Задачай даследавання, праведзенага Лонданскай школай эканомікі, было вызначыць, якія віды дзейнасці робяць людзей найбольш задаволенымі жыццём і які грашовы эквівалент гэтага задавальнення.

# Суперкніга XVI стагоддзя

У XVI стагоддзі існавала кніга, якую можна было чытаць шасцю рознымі спосабамі. Метад змацавання лістоў dos-à-dos (у перакладзе з французскай — «спіна да спіны») у Сярэднявеччы выкарыстоўваўся, звычайна, толькі для дзвюх кніг, якія неабходна было аб'яднаць пад адной вокладкай. У нацыянальнай бібліятэцы Швецыі захоўваецца кніга, якая злучае адразу шэсць выданняў: чытаць яе, адпаведна, можна шасцю рознымі спосабамі. Выданне змацавана металічнымі сашчэпамі: адкрыўшы любую пару суседніх замкоў, можна прачытаць тую ці іншую публікацыю.

Выявіў кнігу і заняўся яе вывучэннем Эрык Квакел, супрацоўнік Лейдэнскага ўніверсітэта. Навуковец быў здзіўлены ўнікальнасцю, узростам і ступенню захаванасці выдання, якое ствралася ў 1550—1570-х гадах. У наш час доступ да кнігі абмежаваны.

# Цікавосткі пра кнігі і пісьменнікаў

**Самыя-самыя…**

***

Рассыпны набор з драўляных літар быў вядомы ў Індыі яшчэ за шмат стагоддзяў да Гутэнберга. А гліняныя літары ўжываліся ў Кітаі яшчэ ў XIII стагоддзі.

***

Самая вялікая ў свеце кніга знаходзіцца ў адным з музеяў Амстэрдама. Яна называецца «Збор марскіх правілаў». Вышыня кнігі большая за рост сярэдняга чалавека, шырыня — адзін метр, таўшчыня — каля паўметра.

***

Самай цяжкай (па вазе) у свеце кнігай лічыцца геаграфічны атлас, які захоўваецца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Атлас мае вышыню больш за адзін метр і важыць 320 кілаграмаў.

***

Адна з самых незвычайных у свеце кніг — «Боская камедыя» Дантэ, напісаная на лісце паперы памерам 80 на 60 см бенедыктынскім манахам Габрыэлем Чэлані. Усе 14000 вершаў можна лёгка прачытаць няўзброеным вокам, а калі паглядзець на старонку з адлегласці, то бачыш маляўнічую карту Італіі. На гэтую працу Чэлані патраціў чатыры гады.

***

Дванаццаць самых маленькіх кніг свету змяшчаюцца ў… адной сталовай лыжцы. Сярод іх ёсць мініяцюрнае выданне Карана, слоўнік ангельскай мовы на 12 тысяч слоў і Канстытуцыя Францыі.

***

Самай дарагой кнігай у наш час лічаць унікальны «Апакаліпсіс», выдадзены французам Жозэфам Форы. Гэтая кніга ацэнена ў 100 мільёнаў «старых» франкаў. Яна выстаўлена ў Музеі сучаснага мастацтва ў Парыжы.

***

Італьянец Рыа Казэллі збірае сусветную калекцыю самых сумных кніг. У ёй каля 10 тысяч тамоў. Адзін італьянскі паэт-«няўдачнік», даведаўшыся, што ўсе яго зборнікі знаходзяцца ў спісе Казэллі, ледзь не стаў самагубцам.

***

«Адзіныя і найглыбокія сакрэты медыцынскага мастацтва» — такую назву мела не тонкая, у 100 старонак, кніга, знойдзеная запячатанай сярод рэчаў славутага галандскага доктара Германа Бурхавэ пасля яго смерці ў 1738 годзе. Кніга была прададзена на аўкцыёне за колішнія 10 тысяч даляраў золатам. Пасля таго, як пячатка на кнізе была зламана, выявілася, што старонкі яе былі… чыстымі. Толькі на тытульным лісце меўся надпіс: «Трымай галаву ў холадзе, ногі ў цяпле, і ты зробіш бедняком лепшага лекара».

**Мала хто ведае…**

***

Мала хто ведае, што Адам Міцкевіч быў не толькі паэтам, але і празаікам-фантастам. І зазірнуў і ў наш «тэлекасмічны» час. У рамане «Гісторыя будучыні» ён пісаў пра акустычныя прыборы, з дапамогай якіх, седзячы ля каміна, можна слухаць канцэрты з далёкага горада, а таксама пісаў пра механізмы, што дапамагаюць насельнікам Зямлі падтрымліваць сувязь з істотамі, якія насяляюць іншыя планеты… І таксама апісаў Еўропу будучыні, якая «ўпала» пры кітайскім уварванні, але Захад выратаваў жанчын — і яны сталі змагарамі заўтрашняга дня. У двухпалатным парламенце яны сядзяць у ніжняй палаце, мужчыны — у верхняй. Гераічная жанчына-лідэр, якая ачоліла жанчын і моладзь (гэта значыць тыя часткі грамадства, якія не страцілі сваіх пачуццяў, адданасці і гераізму), выйграе пераможную «бітву за Віслу».

***

Анарэ дэ Бальзак, пачынаючы працаваць над новым творам, замыкаўся ў пакоі на адзін-два месяцы і шчыльна зачыняў аканіцы, каб праз іх не праходзіла святло. Пісаў ён пад свечкамі, апрануты ў халат, па 18 гадзін штодня!

***

Лёс здаўна несправядліва ставіўся да многіх пісьменнікаў. Сярод іх — ангельскі празаік XVI—XVII стагоддзяў Джон Стоў, які на схіле гадоў апынуўся ў страшнай галечы. Ангельскі ўрад выдаў адмысловы ўказ, які абвяшчаў: «З прычыны таго, што Стоў патраціў сорак пяць гадоў на збіранне матэрыялаў для гісторыі Англіі і дванаццаць на апісанне гарадоў Лондана і Вестмінстара, мы даём яму наш літасцівы і каралеўскі дазвол прасіць міласціну ў нашых падданых».

***

У «Рабінзона Круза» ёсць працяг. У ім Рабінзон зноў трапляе ў караблекрушэнне і змушаны дабірацца ў Еўропу праз усю Расію. Восем месяцаў ён, зімой, жыве і чакае цяпла ў Табольску. У Расіі гэты раман не выдаваўся з 1935 года. Асцерагаліся алюзій на сталінскія лагеры?

***

Вальтэр адначасова пісаў некалькі твораў. Сядаючы да працоўнага стала, ён, у залежнасці ад настрою, браў пэўны рукапіс і працягваў над ім працаваць.

***

Жан Жак Русо, французскі пісьменнік і філосаф, быў аўтарам музычнага слоўніка і напісаў камічную оперу «Вясковы вядзьмак», якая стала родапачынальніцай французскіх опер-вадэвіляў і якая пратрымалася на французскай опернай сцэне больш за 60 гадоў.

***

Жуль Верн марнаваў шмат гадзін у дзень на вывучэнне навуковай літаратуры, выпісваючы цікавыя для яго факты на адмысловыя карткі. У яго картатэцы было больш за 20 тысячаў такіх запісаў. А што б ён «натварыў» у нашую інтэрнэтную эпоху?

***

Стваральніца знакамітага рамана «Авадзень» Этэль Ліліян Войніч была і кампазітарам, а свае музычныя творы лічыла больш значнымі за літаратурныя.

Літаратурная Беларусь
Адрас электроннай пошты: **litaraturnaja.bielarus@gmail.com**
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: **kamunikat.org і novychas.online.**